www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

№ 44 (4296)

1 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Шаноўныя сябры!*
*Не забудзьце падпісацца на “Народную Волю” на другую палову 2018 года!*

SOS!

# Карупцыянеры бяруць дзяржаву за горла!

## Гэта ж трэба: памочнік прэзідэнта – інспектар па Гродзенскай вобласці Сяргей Раўнейка (на фота) затрыманы з палічным пры вымагальніцтве і атрыманні хабару ў памеры 200.000 (!) долараў.



ПРОФІЛЬ

## Яго кар’ера

Сяргею Раўнейку ў жніўні споўніцца 50 гадоў. Нарадзіўся ён у Брэсцкай вобласці. У 1991 годзе скончыў уліковаэканамічны факультэт Беларускага інстытута народнай гаспадаркі імя Куйбышава.

У адзін час працаваў на кіруючых пасадах Брэсцкага абласнога Камітэта дзяржаўнага кантролю. Займаў таксама пасаду начальніка галоўнага ўпраўлення за работай галін матэрыяльнай вытворчасці Камітэта дзяржкантролю Беларусі, курыраваў Гродзенскую вобласць.

Каля трох гадоў таму быў прызначаны памочнікам прэзідэнта – інспектарам па Гродзенскай вобласці. Дарэчы, Сяргей Раўнейка з’яўляўся членам Савета Рэспублікі.

У Сяргея Раўнейкі двое дарослых дзяцей. Дачка жыве ў Брэсце. Жонка і сын – у Мінску.

### Прэс-рэліз Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь:

## «...Па артыкуле, санкцыя якога прадугледжвае пазбаўленне свабоды тэрмінам да 15 гадоў»

“У выніку праведзеных па даручэнні кіраўніка дзяржавы аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў з палічным пры вымагальніцтве і атрыманні хабару ў памеры 200.000 долараў ЗША затрыманы памочнік прэзідэнта – інспектар па Гродзенскай вобласці Раўнейка Сяргей Васільевіч.

У полі зроку аператыўных падраздзяленняў С.В.Раўнейка трапіў больш за год таму ў сувязі з інфармацыяй аб шматразовых фактах атрымання хабару ад розных асоб за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзілі ў яго кампетэнцыю. З санкцыі кіраўніка дзяржавы праведзены аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па дакументаванні супрацьпраўнай дзейнасці службовай асобы. Пры атрыманні чарговага хабару ён затрыманы з грашыма на руках.

У дачыненні да С.В.Раўнейкі Камітэтам дзяржаўнай бяспекі распачата крымінальная справа па часткі 3 артыкула 430 КК Рэспублікі Беларусь, санкцыя якой прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да 15 гадоў.

Падазроны змешчаны ў СІЗА КДБ Рэспублікі Беларусь і дае прызнальныя паказанні.

Зараз праводзяцца неабходныя аператыўна-вышуковыя і следчыя дзеянні, накіраваныя на ўстанаўленне ўсіх фактаў і ўдзельнікаў супрацьпраўнай дзейнасці”.

БЕЗ РЭТУШЫ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Чаму ў Беларусі не адмяняецца смяротнае пакаранне...

29 мая стала вядома пра выкананне смяротнага пакарання адносна двух беларускіх грамадзян: **Віктара Лётава і Аляксея Міхалені**. Парламенцкая асамблея Савета Еўропы, як звычайна, выступіла з пратэстам.

Як вядома, Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе існуе смяротнае пакаранне. Чаму беларускае кіраўніцтва ўпарта адмаўляецца нават ад увядзення мараторыя на такое пакаранне? Усё, мне здаецца, упіраецца ў пазіцыю Аляксандра Лукашэнкі і яго бліжэйшага атачэння. А яна тлумачыцца некалькімі чыннікамі.

Найперш у нас многімі смяротнае пакаранне разглядаецца як пытанне паўнаты і сакральнасці ўлады. Паводле такога ўяўлення паўнаўладны ўладар павінен мець права караць ці мілаваць, уладарыць над жыццём і смерцю сваіх падданых. Паўната ўлады не прадугледжвае нейкіх абмежаванняў. А Еўропа імкнецца такія абмежаванні ўнесці.

Таксама тут важны і момант палітычнай мэтазгоднасці. Паводле сацыялагічных апытанняў, большасць насельніцтва Беларусі (хоць і не вельмі вялікая), як, дарэчы, і шмат якіх іншых краін, у тым ліку еўрапейскіх, выступае за захаванне смяротнага пакарання. Таму Лукашэнка апеліруе да свайго электарату. А гэты электарат – людзі з савецкай, таталітарнай свядомасцю. Яны лічаць жорсткасць улад універсальным чыннікам вырашэння ўсіх сацыяльных праблем. Невыпадкова шмат каму з іх падабаецца Сталін.

Лукашэнка – можна сказаць, выразнік падсвядомых архетыпаў свайго надзейнага электарату. Калі ён заклікае бацькоў, якія не даглядаюць сваіх дзяцей, накіроўваць у працоўныя лагеры ці прымяняць жорсткія захады да наркаманаў, ягоны электарат яго разумее. Сацыялагічныя апытанні паказваюць, што падтрымліваючых такія меры больш, чым не падтрымліваючых.

Вядома, што адмена смяротнага пакарання з’яўляецца ўмовай уступлення Беларусі ў Савет Еўропы. Але ўзнікае пытанне: а навошта гэта трэба нашым уладам? У выпадку ўступлення беларускія грамадзяне атрымаюць права падаваць іскі ў Еўрапейскі суд па правах чалавека. І такія заявы пойдуць суцэльнай плынню, бо сістэма правасуддзя Беларусі, на погляд многіх, разбурана, людзей, незадаволеных прысудамі, якія выносяць суды, вельмі шмат. І ўладам трэба будзе рэагаваць, адмяняць рашэнні беларускіх судоў, кампенсаваць матэрыяльныя і маральныя страты. Асабліва шмат скандалаў было б з-за палітычных спраў. І навошта ўладам такі галаўны боль?

Варта адзначыць, што афіцыйны Мінск памяняў тактыку. Раней на ўсе прэтэнзіі Еўропы беларускія ўлады казалі: не трэба ўмешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі, мы не жадаем нават размаўляць на гэту тэму.

Цяпер афіцыйны Мінск займае іншую пазіцыю. Маўляў, чаму б і не пагаварыць на гэтую тэму? Вы хочаце яшчэ адзін семінар, “круглы стол” па згаданай праблеме? Дык калі ласка! Нават лепш, каб ён прайшоў у Бруселі ці Страсбургу. Бо не так часта беларускім “дэпутатам” удаецца паездзіць па Еўропе. Праўда, вынік усіх гэтых форумаў аднолькавы. Але ж еўрапейцы задаволены: маўляў, працэс жа ідзе.

Для Еўрасаюза і Савета Еўропы пытанне адмены смяротнага пакарання больш важнае, чым праблема свабодных выбараў у Беларусі. Чаму?

Па-першае, пытанне адмены смяротнага пакарання для Еўропы з’яўляецца каштоўнасным. Яно пэўны маркер прыналежнасці краіны да еўрапейскай цывілізацыі. Бо ў ім выяўляецца стаўленне да чалавека як вышэйшай каштоўнасці, ролі хрысціянства.

Па-другое, адмена смяротнага пакарання ці ўвядзенне мараторыя на яго прымяненне – справа больш рэальная, чым правядзенне свабодных выбараў. Бо адмова ад карання смерцю злачынцаў не стварае ніякіх пагроз існаму рэжыму. Чаго не скажаш пра свабодныя выбары. Таму еўрапейцы рацыянальна разважаюць, што, маўляў, трэба пачынаць з больш простых пытанняў, з нечага рэальнага. Еўрапейскія палітыкі – людзі прагматычныя.

Я не выключаю, што ў прынцыпе Аляксандр Лукашэнка можа пайсці на адмену смяротнага пакарання ці мараторый. Калі яму будзе выгадна, то ён не стане зважаць на грамадскія настроі.

Таму гэта прадмет торгу. Але такое можа адбыцца толькі пры ўмове, што кіраўнік Беларусі атрымае ўзамен ад Еўропы нешта рэальнае. Напрыклад, грошы. Але неабавязкова.

Адмена смяротнага пакарання ў Беларусі выклікала б пэўны рэзананс у краінах ЕС. Еўрапейскія палітыкі маглі б трактаваць гэта як пацвярджэнне правільнасці курсу на паступовае ўцягванне рэжыму Лукашэнкі ў еўрапейскія працэсы. Перад кіраўніком Беларусі маглі б адчыніцца дзверы ў сталіцы краін Еўрасаюза. Аб чым ён даўно марыць.

Але пакуль еўрапейскія палітыкі замест прапановы рэальнага перніка разважаюць пра каштоўнасці. У выніку смяротныя пакаранні працягваюцца насуперак пратэстам Савета Еўропы.

ВІНШУЕМ!




*Учора лаўрэат Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч адзначыла свой юбілей.*

*Віншуем, шаноўная Святлана Аляксандраўна! Няхай не падводзіць здароўе, і, вядома ж, творчага плёну ў далейшым!*

ПАЗІЦЫЯ

## «...Я не хварэю на ўласную веліч»

– Я ўвогуле лічу, што не трэба перабольшваць уласнае значэнне. Трэба заўсёды спакойна ставіцца да сябе і не думаць, што ты так ужо шмат зрабіў. Тым больш што і час нам дастаўся такі... Мы жывём нібы на абломках, і зрабіць нешта цэльнае з усяго гэтага пакуль што нікому з нас не ўдаецца – ні палітыкам, ні пісьменнікам. Я гавару зараз пра ўсіх нас, а не пра сябе – я не хварэю на ўласную веліч.

**(З інтэрв’ю Святланы Алексіевіч журналісту Сяргею Шапрану.)**

ПАМЯЦЬ

## Мітынг-рэквіем у Курапатах дазволены!

*3 чэрвеня з 13.00 да 16.00 на тэрыторыі Народнага мемарыяла “Курапаты” адбудзецца мітынг-рэквіем “Дзень памяці пра генацыд”, прысвечаны 30-м угодкам адкрыцця Курапатаў.*

Пра гэта «Народнай Волі” паведаміў кіраўнік грамадскай дырэкцыі мемарыяла **Алесь Чахольскі.**

Арганізатар мітынгу – Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя – БНФ.

*“Беларусь панесла велізарныя страты ў часы камуністычнай расійскай імперыі і асабліва ў перыяд масавых расстрэлаў людзей расійскім НКВД у 1937–1941 гадах,* – нагадваюць у партыі. – *Запалім znічкі, ускладзём кветкі на магілах ахвяр нашага народа. Памятайма, каб жыць і мець будучыню!”*

ЗАКУЛІССЕ

## «Камсамольцы» тусуюць карты...

Як вядома, днямі адбыўся чарговы з’езд Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, пасля якога змянілася кіраўніцтва маладзёжнай арганізацыі. **Андрэй Белякоў**, які менш за чатыры гады кіраваў БРСМ, не быў пераабраны. Першым сакратаром ЦК стаў 31-гадовы **Дзмітрый Варанюк,** які дагэтуль узначальваў Мінскі абласны камітэт арганізацыі.

Цікавасць сітуацыі ў тым, што напярэдадні з’езда з’явілася інфармацыя аб тым, што Белякова адпраўляюць у адстаўку за правалы ў рабоце, у нікуды, ніякай пасады не прапануюць. Дарэчы, яшчэ да з’езда Белякоў вызваліў свой рабочы кабінет для новага лідара.

Аднак кіраўнік БРСМ у 2008 – 2010 гадах **Юрый Крывадубскі** лічыць, што ніякіх падводных камянёў тут шукаць не трэба.

*“Маё бачанне сітуацыі – гэта звычайная тэндэнцыя на амаладжэнне кадравага складу,* – кажа Юрый Крывадубскі. – *Андрэй Эдуардавіч годна спраўляўся з працай, са сваімі абавязкамі. Але, напэўна, палічылі, што трэба прыцягваць моладзь. Думаю, сядзець без справы Белякоў не будзе. Чалавек у росквіце сіл, яму знойдзецца годнае прымяненне”.*

Пра далейшы лёс Андрэя Белякова хацелася даведацца, як кажуць, з першых вуснаў. Аднак нядаўні лідар праўладнай маладзёжнай арганізацыі мабільны тэлефон перавёў у рэжым “галасавой скрыні” (магчыма, не было настрою на размовы), і дазваніцца яму ўчора не атрымалася.

Між іншым сапраўды цікава, куды ўладкуецца на працу 42-гадовы чалавек, які апошнія 18 гадоў займаўся толькі арганізацыйнай работай у БРСМ? Белякоў з 2000 года ў маладзёжнай арганізацыі. Пачынаў з Гомельскага раённага камітэта, у 2013-м стаў другім сакратаром цэнтральнага апарату, а ў студзені 2015-га ўзначаліў БРСМ. Але і да работы ў Саюзе моладзі Андрэй Белякоў ніякай значнай справай не займаўся – быў педагогам-арганізатарам СШ №41 у Гомелі.

Дарэчы Белякоў, як толькі атрымаў работу ў цэнтральным апараце БРСМ, пераехаў у Мінск сам і перавёз з Гомеля сям’ю – жонку і дачку. Ва ўсялякіх інтэрв’ю пазбягаў размоў наконт сваіх жыллёвых умоў у сталіцы. Заўважым, яго пераемнік Дзмітрый Варанюк жыве ў інтэрнаце з жонкай і сынам.

Трэба адзначыць, што паралельна з работай у БРСМ Андрэй Белякоў у 2016 годзе быў абраны ў Савет Рэспублікі 6-га склікання ад Гомельскай вобласці. Але сенатары, як вядома, працуюць на грамадскіх пачатках, за сваю работу ў Верхняй палаце зарплату не атрымліваюць, акрамя старшыні і першага намесніка Савета Рэспублікі. Таму, безумоўна, шукаць работу Белякову давядзецца. *“Нават не ўяўляю, дзе, у якой сферы будзе працаваць Андрй Эдуардавіч,* – кажа сакратарка старшыні БРСМ. – *Ён ніколі пра гэта не гаварыў”.*

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА – Алесь ПУШКІН

# «Больш за ўсё на свеце я шаную ўласную свабоду…»

*У адкрытай месяц таму прыватнай арт-галерэі “Водар” у вёсцы Гумны Крупскага раёна Алесь Пушкін пачуваўся гаспадаром. Як-ніяк першая экспазіцыя фарміравалася пад яго кіраўніцтвам і апекай, ды і ўласных прац мастак для землякоў не пашкадаваў – прывёз і выставіў ажно 28. Таму заслужана вёў рэй падчас урачыстага адкрыцця – прадстаўляў прысутных калег-мастакоў, прыгадваў добрым словам адсутных. А калі схлынуў тлум, мы няспешна пагутарылі з Алесем і пра мастацтва, і пра палітыку, і пра дзве вайны, на якіх яму давялося пабываць з аўтаматам і пэндзлем у руках.*

**– Алесь, арт-галерэя “Водар” адкрылася ў прылляснай вёсачцы Гумны на сядзібе фермера Васіля Баравулі. Гэта твой сябра?**

– Васіль Адамавіч Баравуля – наш мясцовы крупскі бізнесмен. Мы даўно сябруем. І калі ён працягнуў руку на супрацоўніцтва, я не мог яе не паціснуць. У мяне на гарышчы захоўвалася вялікая калекцыя жывапісу, што засталася пасля закрыцця першай прыватнай галерэі сучаснага мастацтва ў Віцебску (дзейнічала ў 1993–1997 гадах). Цяпер тая калекцыя выстаўлена ў трох залах арт-галерэі ў Гумнах, гаспадыня якой – Вольга Васільеўна Баравуля, дачка прадпрымальніка.

**– А ці не лепш было б адкрыць падобную галерэю ў Крупках? Да тых Гумнаў не кожны ж даедзе.**

– У Крупках галерэя ёсць – дзяржаўная, яна дзейнічае з 2005 года. Памятаю, прыехала да мяне загадчыца аддзела культуры Крупскага райвыканкама Людміла Кукарцава і прапанавала мне заняць адну з залаў у той галерэі. Я тут жа выставіў умову: ніякай цэнзуры, афармленне на беларускай мове, адразу выстаўляю дзевяць прац, у тым ліку партрэт бацькі, партрэт Васіля Быкава, карціну “Расійскія боты”… І Кукарцава адказала: “К сожалению, отдел культуры не может пойти на предложенные вами условия”. Тады мой тата ўздыхнуў: “Сынок, відаць, не дажыву я да афіцыйнага прызнання цябе ў Крупках”. Так і сталася – тата памёр, а я да гэтай пары афіцыйна не прызнаны ў Крупках, маіх прац у тамтэйшай дзяржаўнай галерэі няма. Толькі ў прыватнай галерэі “Водар” я прадстаўлены на сваёй радзіме.

### «Хата ў Бабры была куплена за першы царкоўны ганарар»

**– Да цябе ў мястэчка Бобр усё роўна прыязджае шмат людзей. А ці не спрабаваў ты зрабіць нейкую выставачную залу ў Бабры?**

– Спрабаваў. Летась падаваў заяву ў Крупскі райвыканкам, каб мне здалі ў арэнду ці прадалі дом у Бабры, які даўно стаіць без гаспадара. Мне адмовілі: маўляў, я не юрыдычная асоба. Так што свае творы я пакуль выстаўляю ў майстэрні, ваджу туды ўсіх зацікаўленых. Ну, і ў хаце на ўсіх сценах вісяць карціны, хоць цеснаватая яна ў мяне. Затое ў Гумнах – ажно тры прасторныя залы, проста цуд. Там толькі маіх прац ажно дваццаць восем.

**– Гумнаўская галерэя мае права іх прадаваць?**

– Так, мае. Мы з калегамі падпісалі з ёю адпаведную дамову. Там таксама прадстаўлены творы мастакоў, якія з’ехалі за мяжу. Скажам, Ігар Цішын і Наталля Залозная перад выездам у Бельгію на пачатку 1990-х пакінулі мне некалькі сваіх прац. Цяпер яны прызнаныя на Захадзе мастакі, выстаўляюцца па ўсёй Еўропе, вельмі добра зарабляюць. Ці Раман Заслонаў – унук таго самага партызана-героя, які пускаў пад адхон нямецкія цягнікі, сёння жыве і працуе ў Францыі.

**– Чаму з’язджалі 20–25 гадоў таму – зразумела, ад безграшоўя. “Не расталіся б мы з нашым краем, / Каб было дзеля нас у ім хлеба”, – як пісаў Максім Багдановіч. Чаму працягваюць з’язджаць да гэтай пары? Хіба сёння мастак не можа быць паспяховым у Беларусі?**

– Можа, але ўсё ж у нас за карціны плацяць малавата. Таму свае творы нашы мастакі (асабліва маладыя) стараюцца прадаць за мяжу – у Расію ці ў Кітай. Напрыклад, кітайскі Ванджоўскі музей нядаўна набыў цэлую серыю прац Зоі Луцэвіч. Дарэчы, яе карціны вісяць і ў Гумнах.

**– А хто набывае твае творы?**

– Адзіныя мае стабільныя заказчыкі – царква і касцёл. Пішу абразы для храмаў, выконваю прыватныя замовы на абразы як для католікаў, так і для праваслаўных. Апошняя мая праца ў гэтым жанры – Маці Божая Гетжвалдская – была ўручана прэзідэнту Польшчы Анджэю Дуду, і цяпер яна знаходзіцца ў Бельведэрскім палацы. За яе мне вельмі добра заплаціў сам вармійска-мазурскі ваявода Артур Хаецкі з Ольштына. Памятаю, за першы “царкоўны” ганарар я купіў хату ў Бабры. Таму са сваімі дзеткамі, Міколкам і Марылькай, мы малітвамі дзякуем Госпаду за спрыянне.

### «Беларусь дагэтуль поле бітвы польскай і расійскай культур»

**– Ведаю, што ты доўга дамагаўся для сына і дачкі беларускамоўнай школы ў Бабры. Ці дамогся?**

– Школа засталася рускамоўнай, але мае дзеці выдатна валодаюць роднай мовай. Сям’я – гэта наша маленькая Беларусь. Мікола і Марыля змалку слухалі беларускія аўдыёказкі, гурты “Палац” і “Стары Ольса”, у мяне ёсць усе альбомы Зміцера Вайцюшкевіча. Мая жонка Яніна – вучаніца знакамітага гісторыка Генадзя Сагановіча. Скончыўшы ў 1994 годзе Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка, яна паехала на сваю радзіму, у Стаўбцоўскі раён, выкладаць у беларускай школе. Мы з ёю пазнаёміліся ў касцёле ў Магілёве. Я доўга не цягнуў – мы павянчаліся і з тае пары жывём у Бабры ў вясковай хаце.

**– Ты згадаў касцёл Святога Станіслава ў Магілёве. Там жа быў твой цудоўны роспіс… Каму ён настолькі не спадабаўся, што яго замалявалі?**

– На жаль, Беларусь дагэтуль поле бітвы польскай і расійскай культур. Гэта відно нават на прыкладзе маёй творчасці. Плафон у магілёўскім касцёле я распісаў у 1996 годзе, атрымаўшы дабраславенне кардынала Казіміра Свёнтака. Роспіс займаў 25 квадратных метраў. Далей адбылася вельмі непрыемная гісторыя. Калі пробашчам там стаў будучы біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін, роспіс завесілі палатном. А пры пробашчы Рамане Факсінскім (грамадзяніне Польшчы) яго зафарбавалі… У свой час я распісаў і праваслаўную царкву ў Бабры – вернікі сабралі грошы на фарбы, на ўсё астатняе. Мне бацька сказаў: “Алесь, ты народжаны і вырас у Бабры, зрабі такую ахвяру”. Я выканаў бацькаву просьбу. Той мой роспіс таксама замаляваць спрабавалі, а ў выніку нашу царкву нехта спаліў… Дзве мае манументальныя працы – у касцёле і царкве – знішчаны ворагамі беларушчыны.

**– Пачакай, твая праца была дабраславёная кардыналам – вышэйшым іерархам каталіцкага касцёла ў Беларусі. Хіба нехта меў права яе знішчыць?**

– Ну так, прычым у ліку 44 выяў на тым замаляваным плафоне была і выява тагачаснага Папы Рымскага Яна Паўла ІІ. Калі мітрапалітам стаў Тадэвуш Кандрусевіч, мы з архітэктарам Уладзімірам Папругам (навуковым кіраўніком рэстаўрацыйных майстэрань) і Феліксам Янушкевічам (старшынёй Беларускай каталіцкай грамады) звярнуліся да яго, паказвалі, што зрабілі з маім роспісам. Кандрусевіч паабяцаў разабрацца і прыняць меры… Відаць, прыняў. Цяпер Раман Факсінскі працуе пры мітрапаліце ў Мінскай курыі. А роспіс так і застаецца замаляваным.

### «Два рэжымы – гітлераўскі і сталінскі – штурхалі беларусаў да братазабойчай вайны»

**– Ты часам ствараеш партрэты малавядомых асоб, паказваеш на нейкіх знакавых выставах. Такім чынам – гераізуеш іх, апярэджваючы гісторыкаў. Гэта даволі рызыкоўная справа…**

– Так, на выставе да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі ў мінскім Палацы мастацтва я паказваў партрэт слуцкага паўстанца Лукаша Семенюка, камандзіра Грозаўскага палка, які быў родам з майго Крупскага раёна. Дарэчы, партрэт Семенюка мы з сынам Міколам 1 верасня 2017 года насілі па Слуцку, за тую “несанкцыяваную акцыю” мяне пасля асудзілі да штрафу. Калі я бяруся за партрэт нейкага дзеяча, то вывучаю яго біяграфію. Праўда, былі ў мяне і прамашкі. Я цяпер не вельмі рады, што напісаў партрэты Усевалада Родзькі і Міхася Вітушкі. Сёння я б іх не выстаўляў. Аказваецца, Вітушка да вайны служыў савецкім міліцыянерам у Нясвіжы... Таксама і Усевалад Родзька – складаная фігура. Як лічаць некаторыя гісторыкі, ён у 1949 годзе здаў савецкім спецслужбам многіх людзей, а пазней быў “стукачом” у лагерах. Ёсць у мяне і партрэт актыўнага ўдзельніка антысавецкай партызанкі Яўгена Жыхара. І дагэтуль у Глыбоцкім РАУС вісіць партрэт забітага ім міліцыянта. Калі я быў у Глыбокім, то хацеў партрэт Жыхара змясціць поруч з партрэтам міліцыянта. Такім чынам паказаць трагедыю братазабойчай вайны. Але рэжысёр Антось Цялежнікаў, аўтар фільма “Праклятыя і забытыя”, адгаварыў мяне: маўляў, гэта будзе выглядаць як цынічны акт. Але ў тым цынізме праўда – беларус Жыхар забіў беларуса-міліцыянта. Вось так два крывавыя рэжымы – гітлераўскі і сталінскі – сутыкалі нас, штурхалі да братазабойчай вайны.

**– Вайна для многіх мастакоў стала паспяховай тэмай. Згадайма таго ж Міхаіла Савіцкага – і народным мастаком СССР стаў, і Героем Беларусі. Ты таксама бываў на вайне і маляваў літаральна ў акопах. Я маю на ўвазе міжнародны мастацкі пленэр на Данеччыне, у якім ты браў удзел. Потым і выставы твораў з таго пленэру ладзіліся. Чым вайна прыцягальная для цябе як мастака?**

– Нічым яна для мяне не прыцягальная. Чалавек, які быў на вайне, не захоча манетызаваць вайну і спекуляваць на ваеннай тэме. Папросту кажучы, зарабляць “бабкі”. І калі мне прапанавалі праехацца з той выставай па Еўропе, я катэгарычна адмовіўся. Паказвайце ва Украіне, збірайце ахвяраванні, але везці за мяжу дзеля палітычных ачкоў для кагосьці… Гэта для мяне амаральна. А пленэр той мусіў адбыцца, паколькі мы, мастакі суполкі “Пагоня”, не можам стаяць убаку ад вайны, дзе ўжо загінулі і беларусы – спачатку Міхась Жызнеўскі, пазней Алесь Чаркашын.

**– Калі я глядзеў здымкі з данецкага пленэру, мне прыгадаўся дзённікавы запіс Пімена Панчанкі, зроблены на фронце. Ён чытаў вершы на перадавой, а тут пачаўся артабстрэл, і ён упершыню зразумеў, што вершы ў яго даўгаватыя... А вы на Данеччыне пад абстрэлы не траплялі?**

– Толькі аднойчы. Неяк у сонечны дзень каля пасёлка Пяскі мы завялі БМП і праехалі паралельна лініі падзелу, каб падражніць дэнээраўцаў. І адтуль пастралялі, праўда, не з гранатамётаў, а са стралковай зброі. Мяне ўразіла, што на Данеччыне ў салдацкіх сталоўках – мёд ад пчаляроў Палтаўшчыны, скрынкі з печывам ад жанчын з Чарнігаўшчыны, у казармах паўсюль – патрыятычныя спеўнікі.

**– Як выглядае інфраструктура на Данеччыне? Ці аднаўляецца штосьці, разбуранае падчас баявых дзеянняў?**

– Не аднаўляецца нічога. Усё разбурана ўшчэнт, паўсюль руіны. А Данеччына – такая багатая зямля! Там 120 сантыметраў чарназёму, а на глыбіні 800 метраў залягае антрацыт. Уся прамысловасць там цалкам згорнута.

### «Мастацтва мусіць адцягваць увагу чалавека ад вайны»

**– Відавочна, што ў вядомым выслоўі “калі гавораць гарматы – музы маўчаць” няшмат рацыі, гісторыя гэта неаднойчы пацвердзіла. Усё ж якая роля мастака на вайне – падымаць баявы дух салдат ці маляваць, умоўна кажучы, “голуба міру”, як тое зрабіў калісьці Пабла Пікаса?**

– Роля мастака – антымілітарная, антываенная. Нельга забіваць адзін аднаго дзеля розных перакананняў. Трэба ў любых умовах дамаўляцца і мірна суіснаваць. Мастацтва мусіць адцягваць увагу чалавека ад вайны.

**– Ты маляваў вайну і другую – я маю на ўвазе малюнкі, прывезеныя табой са службы ў Афганістане. А кім ты сябе *там* адчуваў – акупантам, вызваліцелем, змагаром з бандфарміраваннямі?**

– Адназначна акупантам. Помніцца, я там вёў дзённік на беларускай мове, яго начальства не магло прачытаць. Я там пісаў пра тое, як нам жанчыны плявалі ўслед, калі мы ехалі па Кабуле, абражалі нас па-свойму, на мове дары. Я ўсё гэта запісваў. Аднойчы няўдала схадзіў па гашыш да афганцаў і трапіў на гаўптвахту. А начальнікам гаўптвахты быў прапаршчык Бельскі, беларус. Ён прачытаў мой дзённік і далажыў начальніку штаба палка, масквічу маёру Кулікову. Той выклікаў мяне і сказаў: “Рядовой Пушкин! В вашем дневнике содержатся мысли, идущие вразрез с политикой партии и нашего государства в этой стране. Поэтому получите еще и от меня 10 суток”. Вядома, мы там былі акупантамі, і гэта прымушала быць заўсёды напагатове. Скажам, калі спыняліся на бэтээры каля крамы, то здымалі аўтаматы з засцерагальнікаў.

**– Ці давялося табе непасрэдна ўдзельнічаць у баявых аперацыях?**

– Адразу падкрэслю: я служыў у наземнай авіяцыі, я абслугоўваў самалёты і верталёты. Яны садзяцца, узлятаюць, іх трэба абслугоўваць, чапляць бомбы на падкрылкі. Асабіста я нікога не забіў. Але ж тыя боепрыпасы, якія я чапляў, скідваліся на галовы афганцаў... Так што віну я ўсё роўна адчуваю. А смерць зблізку даводзілася бачыць часта. Прыкладам, калі падвозілі гэтак званы “груз-200” да “чорнага цюльпана”, які прылятаў... Памятаю, у суседняй казарме застрэліўся салдат – з-за дзедаўшчыны. Я першы прыбег, падняў яго, убачыў прастрэленыя грудзі і паглядзеў яму ў вочы. Такое не забываецца. Згасаючы позірк маладога хлопца... Давялося бачыць шмат забітых, абгарэлых лётчыкаў, якія ляжалі на насілках, поўнасцю ўсе чорныя і ўжо ўздутыя, іх потым грузілі ў цынкавыя труны. А калі прызямляецца верталёт і выносяць параненых, кроў капае проста на ўзлётна-пасадачную паласу, зробленую з рыфлёнага жалеза...

### «Я змагаюся з мясцовай уладай, але мне самому ўлада не патрэбна»

**– Ты жывеш у родным мястэчку. Ці ёсць у цябе ў Бабры аднадумцы? Ці патрэбны тваім землякам “кліч свабоды”, пра які пісаў твой знакаміты цёзка Аляксандр Пушкін?**

– Няма ў мяне сяброў у Бабры. Хоць ёсць эліта ў мястэчку: праваслаўны святар, дырэктарка школы, пратэстанцкі пастар, старшыня сельсавета, бібліятэкары. Мы з жонкай пражылі ў Бабры ўжо многа гадоў, і я вымушаны канстатаваць: не патрэбны тутэйшым людзям кліч свабоды, не ўзнікае рэзанансу ў іхніх душах. Я – адзіны прафесійны мастак на 22.500 жыхароў Крупскага раёна, але да нядаўняга часу, да адкрыцця галерэі ў Гумнах, атрымлівалася, што я тут нікому не патрэбны. Мяне землякі як трактуюць? Пушкін – бандыт і мацяршчыннік, які неаднойчы трапляў на суткі. Засталося толькі, калі я на Купалле крупнік вару і частую людзей, прыпісаць мне самагонаварэнне. Вось калі для поўнай камплектнасці і гэты артыкул мне прыпішуць – тады цалкам нягоднік атрымаецца.

**– Дык а за што цябе ў Бабры недалюбліваюць і баяцца?**

– Паспрабую патлумачыць. Скажам, набліжалася 500-годдзе Бабра. Мясцовая ўлада пра гэтую дату не хацела ўспамінаць. Я прыйшоў у сельсавет і сказаў, што калі да юбілею мястэчка яны не заасфальтуюць вуліцы, не правядуць у мястэчка газ, не зробяць водаправод, то мы, мастакі, зладзім перформанс: захопім сельсавет, узнімем над ім бел-чырвона-белы сцяг і такім чынам прымусім загаварыць пра Бобр усе СМІ.

**– І гэта падзейнічала?**

– Нешта было зроблена. Пракладзены дзве новыя вуліцы, засыпаны лужыны. Разумееш, у сельскай мясцовасці, як правіла, увогуле няма свабодных людзей, усе застрашаны, усе дзесьці служаць, ходзяць, утуліўшы галаву ў плечы. У тым жа Бабры я адзін – свабодны грамадзянін, штогод, на 25 Сакавіка, раблю выставы на местачковай плошчы.

### «У прэзідэнты я не збіраюся»

**– Ты ўдзельнічаеш у палітыцы на мясцовым узроўні. А ў цябе самога ніколі не было палітычных амбіцый? Мне здаецца, што ў Беларусі кандыдат з прозвішчам Пушкін на любых выбарах меў бы пэўныя шанцы.**

– Згодны. Але больш за ўсё на свеце я люблю маляваць. Каб меў светлую прасторную майстэрню, многа фарбаў і палатна, – я толькі пісаў бы і прымаў гасцей. Больш за ўсё на свеце я шаную ўласную свабоду. Думаеш, у Бабры мала стукачоў, якія сочаць за мною і дакладваюць куды трэба? Але звыкліся і са мною, і з бел-чырвона-белым сцягам над маёю хатай. Так, я змагаюся з мясцовай уладай, але людзі ведаюць – мне самому ўлада не патрэбна, у прэзідэнты я не збіраюся.

**– У прэзідэнты не збіраешся, а дэпутатам Бобрскага сельсавета цябе маглі б абраць?**

– Мясцовыя Саветы – фігавы лісток улады. У сучаснай уладнай вертыкалі гэта абсалютна непатрэбная рэч. Я двойчы звяртаўся ў сельсавет, прасіў хоць сметніцы паставіць на беразе рэчкі, дзе мы Купалле ладзім. Адказ адзін – у нас грошай няма. Таму людзі ў мясцовую ўладу не вераць. Сумна, што дзесяцігоддзі сыходзяць на супрацьстаянне. Вось кажуць: калі б 100.000 людзей выйшлі на сталічную плошчу, як у Арменіі, то і ў нас улада змянілася б. А я думаю, што нават калі б 500.000 выйшлі, то нас труцілі б газам і расстрэльвалі б з кулямётаў. Беларусь – не Арменія, дзе народ і ўлада з’яднаны тысячагадовай гісторыяй. У нас іншая сітуацыя. Таму людзі і не выходзяць.

НУ І НУ!

## Заехаў… у дом

*Незвычайным чынам закончылася рыбалка для жыхара г. Іванава Брэсцкай вобласці.*



Вяртаючыся дадому праз вёску Моладава, 35-гадовы мужчына не справіўся з кіраваннем і заехаў у цагляны дом, які толькі пабудавалі. Ніхто не пацярпеў, акрамя дома, добрая частка якога абрынулася. На рыбака склалі два пратаколы.

Віктар ШПАК.

ЗАКУЛІССЕ

## «Камсамольцы» тусуюць карты…

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

### Дзе працуюць былыя лідары БРСМ?

Ратацыя кадраў у БРСМ – справа рэгулярная: звычайна надоўга ў крэсле кіраўніка БРСМ ніхто не затрымліваецца. У той жа час усім былым лідарам БРСМ знаходзяцца добрыя пасады.

Першы кіраўнік БРСМ **Аляксандр Нахаенка** (быў абраны 6 верасня 2002 года, калі БРСМ стварылася шляхам зліцця «Беларускага патрыятычнага саюза моладзі» і «Беларускага саюза моладзі») займаў пасаду толькі год. Развітаўшыся з маладзёжнай структурай, падаўся ў камерцыю. У 2008 годзе Нахаенка ўладкаваўся на работу ў вотчыну паспяховага бізнесмена **Аляксандра Шакуціна** – на ААТ “Амкадор”, быў перыяд (2015–2017 гг.), калі Аляксандр Нахаенка з’яўляўся першым намеснікам старшыні Беларускай гандлёва-прамысловай палаты.

З 2003-га па 2005 год БРСМ узначальваў **Міхаіл Арда**. У яго працоўнай біяграфіі нямала дзяржаўных пасад, хоць паводле адукацыі Арда ветэрынар. Ён двойчы абіраўся ў Палату прадстаўнікоў (другога і чацвёртага скліканняў), займаў пасаду памочніка прэзідэнта – інспектара па Гродзенскай вобласці. З 2014-га Міхаіл Арда – старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Для трэцяга лідара БРСМ – **Міхаіла Кавалёва** – гэтая маладзёжная структура стала добрым кар’ерным стартам. Ён кіраваў БРСМ з 2005-га па 2008 год. Адтуль пайшоў на пасаду кіраўніка спраў Мінскага аблвыканкама, затым быў прызначаны спачатку намеснікам старшыні Віцебскага гарвыканкама, а потым намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама. Але ў 2011 годзе Кавалёў пагарэў на хабары, і ў 2012-м быў асуджаны на 7 гадоў пазбаўлення волі.

**Юрый Крывадубскі**, які змяніў Кавалёва на пасадзе кіраўніка БРСМ у 2008 годзе, у свой час таксама апынуўся ў цэнтры невялікага скандалу. З БРСМ ён сышоў працаваць у спартыўную сферу, стаў дырэктарам стадыёна «Дынама», потым намеснікам генеральнага дырэктара футбольнага клуба «Мінск». Зараз ён таксама ў каляспартыўнай сферы, дзе канкрэтна – не каменціруе, кажа, што работа звязана з футболам.

**Ігар Бузоўскі**, які ўзначальваў БРСМ у 2010–2014 гг., да нядаўняга часу займаў пасаду намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Але ў снежні 2016 года быў вызвалены з гэтай пасады ў сувязі з пераходам на іншую работу. У сакавіку 2017 года Бузоўскага прызначылі кіраўніком адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска.

Марыя ЭЙСМАНТ.

ДАРЭЧЫ

## Да 35 гадоў…

На з’ездзе БРСМ была агучана ініцыятыва Саюза моладзі наконт узросту членаў арганізацыі. Прапануецца на заканадаўчым узроўні яго ўзняць да 35 гадоў. Зараз членам БРСМ можна быць з 14 да 31 года.

Народная Воля http://www.nv-online.info
1 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

ЧУЛІ?

## Будзе нафта з Ірана

Беларусь і Іран вядуць перамовы па новых пастаўках нафты. Пасол Ірана ў Беларусі **Мастафа Авейсі** паведаміў, што *"іранскія і беларускія нафтавікі правялі добрыя плённыя перамовы"*, вынікам якіх сталі пастаўкі ў Беларусь дзвюх партый іранскай нафты – на 600 і 800 тысяч бараляў. *«Для абодвух бакоў гэта было выгадна»*, – падкрэсліў Авейсі. *«Па гэтым годзе вядзём перамовы. Разлічваем працягнуць гэту здзелку"*, – дадаў ён.

НУ І НУ!

## Прадпрымальнік «заправіў» свой аўтамабіль… хрызантэмамі

У бензабаку свайго аўтамабіля жыхар горада Масты перавозіў цераз мяжу расаду хрызантэм без адпаведных дакументаў. Кантрабанду ў Volkswagen Passat, які кіраваўся з Польшчы ў Беларусь, выявілі гродзенскія памежнікі ў пункце пропуска "Брузгі". Пры даглядзе аўтамабіля з тайніка ў бензабаку дасталі больш за 600 адзінак пасадачнага матэрыялу, увоз якога на тэрыторыю ЕАЭС павінен суправаджацца фітасанітарным сертыфікатам незалежна ад яго колькасці і вагі. Дадзенае правапарушэнне можа закончыцца для прадпрымальніка канфіскацыяй аўтамабіля.

СУД

## Адмовілі

*Учора ў Мінскім гарадскім судзе адбываўся разгляд касацыйнай скаргі чатырох былых фігурантаў "справы патрыётаў".*

Сяргей Стрыбульскі, Віктар Мароз, Віктар Данілаў і Андрэй Дундукоў патрабавалі ў Міністэрства фінансаў кампенсаваць маральную шкоду за незаконнае затрыманне і ўтрыманне пад вартай.

У красавіку суд Маскоўскага раёна адмовіў ім у калектыўным іску, а Мінскі гарадскі суд таксама не ўбачыў падстаў для адмены рашэння ніжэйшай інстанцыі.

Сяргей НІКАНОРАЎ.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Сяргей Крывец вяртаецца дадому?

*Вядомы беларускі футбаліст можа падпісаць кантракт з брэсцкім "Дынама".*

Сяргей Крывец вядомы на польскіх стадыёнах яшчэ з 2009 года. Выступаў за "Лех", "Віслу", затым нейкі час гуляў за французскі "Мец". Апошні год Сяргей быў у складзе "Аркі" з Гдыні, але 1 ліпеня ў яго заканчваецца кантракт з клубам.




Зараз стала вядома, што Крывец вядзе перамовы з брэсцкім "Дынама", старшынёй назіральнай рады якога не так даўно стаў славуты аргенцінец Дыега Марадона.

Алесь СВЯТЛАНІЧ.



СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# SOS! Дети!

*Репортаж из «Детской деревни», в которой дети-сироты и дети, оставшиеся без попечения родителей, живут хорошо и дружно…*

…Я вхожу в широко распахнутые ворота и иду между рядами аккуратненьких двухэтажных коттеджей. Полдень, яркое солнце… Всюду цветы, пышные кусты, ровненькие асфальтовые дорожки… Навстречу по дорожке уверенно и вальяжно шествует кот.

– Это кот Дмитрия Васильевича! – уважительно произносит сопровождающая нас женщина.

Дмитрий Васильевич Колтович – директор «SOS-Детской деревни Марьина Горка».



### Немножко истории

В 1946 году сразу после окончания Второй мировой войны, унесшей миллионы жертв и оставившей миллионы сирот, австрийский социальный педагог Герман Гмайнер создал «SOS. Деревни». Своей задачей он видел спасение сирот от голода и нищеты, предоставление им возможности нормально жить и развиваться. «Каждый ребенок должен расти в семье, в атмосфере любви, уважения и защищенности», – утверждал Гмайнер.

Движение вскоре приняло международный масштаб, и сейчас "SOS. Деревни" существуют в 134 странах мира. Недавно они появились в Сирии.

В Беларуси их три: в Боровлянах под Минском, в Могилеве и в Марьиной Горке. Это единственные негосударственные общественные организации, которым доверено воспитание детей-сирот и детей, оставшихся без попечения родителей. Кстати, и финансирование здесь в основном негосударственное – доля бюджетных средств составляет всего около 15 процентов.

### SOS-семьи

В Марьиной Горке деревня состоит из 12 SOS-семей, для каждая выделен свой коттедж.

…Нас встречает Анна Евгеньевна Трушина, помощница SOS-мамы: так в «SOS. Деревнях» называют родителя-воспитателя. У самой SOS-мамы сегодня выходной.

Анна Евгеньевна с легкостью опытного экскурсовода показывает дом этой немалой по любым меркам семьи, состоящей из восьми разновозрастных мальчиков и девочек плюс SOS-мама, живущая с ними все время за исключением одного выходного дня. В каждой комнате по два человека. Мальчики и девочки, естественно, отдельно. Письменные столы, компьютеры, комфортная мебель с удобными кроватями.

Благоустроенная кухня.. Сверкающие чистотой ванна и туалет, стиральная машина…

В гостиной – громадный диван, на котором при случае может разместиться вся SOS-семья. И SOS-котик по имени Барсик, с которым на балкончике обнимается девочка лет восьми… Вообще, котики в деревне не редкость. Похоже, с любовью к животным здесь все в порядке. Много белок, которые уверенно прыгают по деревьям. «Они вообще ничего не боятся!» – восторженно убеждает нас одна из здешних девочек и в доказательство протягивает на ладони подсолнечные семечки, которыми дети специально запасаются, чтобы покормить зверьков по дороге из школы.



– Я буду поступать в строительный колледж в Минске, а потом работать по специальности, – говорит серьезный паренек лет пятнадцати.

– А учишься хорошо, поступишь?

– Он поступит, – уверенно подтверждает Анна Евгеньевна. – Он у нас молодец!

Девочка-подросток, очевидно, только что вышедшая из душа – в халатике и с чалмой из полотенца на голове, настроена на учебное заведение гуманитарного профиля. Правда, пока не может точно сформулировать, чем именно хочет заниматься в будущем. Остальные в силу малолетства пока не определились, но после школы тоже собираются учиться – пример перед глазами есть…

А пока – быт нормальной многодетной семьи. В ванной набор зубных щеток – дети по утрам под присмотром мамы чистят зубы. Многих биологические родители, лишенные родительских прав, не учили даже этому. Как и многому другому.

Потом все вместе завтракают, идут в школу.

– А кормят вас тут вкусно?

– Вку-у-усно! – тянет малышка лет шести. – Мама готовит вкусно.

Старшие помогают младшим – здесь это закон. Самых младших отводят в детский садик.

Все члены семьи по очереди помогают на кухне, ходят в магазин за продуктами, вместе с SOS-мамой покупают себе одежду – может быть, не самую шикарную, но всегда новую. Секонд-хенда здесь не признают.

### SOS-дети

…Кабинет директора «SOS. Деревни» Дмитрия Васильевича Колтовича расположен в административном коттедже. Небольшое аккуратное помещение уставлено спортивными кубками, полученными за победы в спортивных соревнованиях: футбол, карате, другие виды спорта. Дмитрий Васильевич, сам в прошлом спортсмен, неустанно приобщает детей к здоровому образу жизни.



– Когда биологических родителей лишают родительских прав, ребенок получает статус сироты или оставшегося без попечения родителей. Его изымают из семьи, помещают в приют по месту жительства, что для ребенка независимо от обстоятельств, конечно, трагедия, – объясняет Дмитрий Васильевич. – Приют обязан в течение месяца устроить ребенка в своем районе. Это могут быть детский дом, дом ребенка, опекунская семья, приемная семьи, детский дом семейного типа. Если это не удается, связываются с нами…

Тогда специалисты «SOS. Деревни» выезжают, чтобы познакомиться с ребенком. Кстати, одно из основных отличий от детского дома семейного типа: туда детей направляют органы опеки. А специалисты из «SOS. Деревни» имеют право выбирать. Они смотрят личное дело ребенка, встречаются с ним…

– То есть бывает, что вы ребенка к себе не берете?

– Да, бывает. В первую очередь это дети с особенностями психофизического развития.

Это понятно: работать с такими детьми должны специалисты, которых в «SOS. Деревнях» нет. Но они есть в специальных интернатах. И если, согласно официальной статистике, сирот в Беларуси становится все меньше, даже закрываются детские дома, то специальные интернаты продолжают существовать.

Еще одно отличие: если в детских домах семейного типа может быть до 14 детей, то в SOS-семьях, как правило, не более восьми. Это, по мнению специалистов, оптимальное количество. И, что очень важно, сестер и братьев здесь не разделяют. Если после лишения родителей прав остались трое детей, то все они идут в одну SOS-семью к одной SOS-маме.

Отношение к делу тут серьезное. Изначально по каждому ребенку составляется адаптационный план, выполнение которого контролируется раз в квартал – с участием двух психологов, которые работают только в «SOS. Деревне», социального педагога.

Возраст детей – от 5 до 18 лет. Профориентация начинается с 6-го класса. Не удивительно: после школы, как правило, дети учатся в колледжах, вузах. Мальчики также поступают в кадетский корпус в Слуцке, Военную академию, училище МЧС.

Для детей сохраняются льготы: бесплатный проезд на любом городском транспорте, кроме такси. Посещение театров при наличии мест, музеев. Оздоровление в санаториях.

За все время, рассказывают сотрудники "SOS. Деревни", они приняли участие в судьбе 165 детей. И из них только трое потом оказались в местах лишения свободы – за воровство. К сожалению, гены биологических родителей, осужденных за то же самое, оказались сильнее влияния педагогики…

Были дети, которые убегали, – тоже генетически заложенная склонность к бродяжничеству. Но никто из детей «SOS. Деревни» на учете в милиции не стоит.

Зато уже сегодня деревня имеет трех замечательных внуков! Это дети выпускников, которые уже обзавелись собственными семьями.

### SOS-мамы и просто мамы

На них, SOS-мамах, собственно говоря, здесь все и держится. На них и на их помощниках.

Кто может быть SOS-мамой?

– Длительное время считалось, что это обязательно должна быть женщина незамужняя и бездетная, – разъясняет Дмитрий Васильевич. – Ну, чтобы могла всю себя отдавать этой нелегкой и очень важной работе. И, конечно, должно быть образование – не обязательно педагогическое. После тестирования и иных подготовительных мероприятий с SOS-мамами проводится множество тренингов и семинаров, превращающих этих женщин в настоящих профессиональных педагогов. Отметим: любой кандидат в SOS-мамы некоторое время работает помощником.

Да, и зарплата по белорусским меркам очень неплохая…

Но в последние годы подход к проблеме меняется. В SOS-семьях, как вообще в любых других семьях, желательно сочетание мужского и женского влияния. И теперь в Марьиной Горке в одной из семей работает пара – муж и жена. Хотя по-прежнему основную роль играет женщина, SOS-мама. А ее муж выступает в качестве помощника.

Руководители «SOS. Деревни» внимательно следят за этим опытом и, похоже, намерены его развивать. Тем более что в нынешнем году две SOS-мамы уходят на пенсию, и уже начат поиск семейных пар, которые могли бы их заменить.

Еще одно серьезное отличие «SOS. Деревни» – здесь не пытаются целиком заменить биологических родителей и поддерживают любые возможные контакты с ними.

…Биологическая мама из Слуцкого района спустя 12 лет после лишения родительских прав решила их восстановить. К ней прислушались, детей свозили в хозяйство, где она работает: вот дом, где она живет, вот ее сожитель, вот курочки возле дома клюют зернышки…

Дети получили информацию, все увидели своими глазами. Как все будет дальше – время покажет.

А дальше бывает по-разному. Было и такое: биологическая мама настаивала на встрече с ребенком, а когда его привезли к месту ее постоянного проживания, биологическая мама была пьяна…

Кстати говоря, никто не настаивает на том, чтобы SOS-маму дети называли мамой. Малыши быстро привыкают и произносят это слово как что-то само собой разумеющееся. Подростки чаще всего обращаются по имени-отчеству – и это нормально.

– Но после выпуска многие дети приезжают на выходные, – говорит Анна Евгеньевна Трушина. – Звонят, спрашивают разрешения и приезжают. Тогда в коттедже приходится потесниться. Но как иначе: многим просто некуда больше приехать…

### SOS-проверки

Да, конечно, «SOS. Деревни» регулярно проверяют. Дабы ни у кого не возникало желания поживиться за счет беззащитных детей. Что делать, такое все еще случается в нашей жизни. Поэтому сюда регулярно наведываются и прокуратура, и санстанция, и службы МЧС… Никаких нарушений не находят, но через положенное время приходят опять.

…Через те же широко раскрытые ворота покидаю «SOS. Деревню Марьина Горка». За несколько часов, проведенных здесь, я увидела серьезную и эффективную работу взрослых людей, посвятивших себя помощи детям.

Екатерина ТРОФИМОВА.

РАКУРС

# Пенсіянераў паменела больш як на 25 тысяч

У Беларусі павялічаны пенсійны ўзрост: з 2022 года жанчыны будуць выходзіць на пенсію ў 58 гадоў, мужчыны – у 63. Падвышаецца ўзрост паэтапна з 1 студзеня 2017 года: штогод на шэсць месяцаў. Так, у мінулым годзе пенсіянерамі сталі жанчыны, якія дасягнулі 55,5 года, мужчыны – 60,5. У 2018-м на пенсію пойдуць беларускі 56-гадовага ўзросту і беларусы 61-гадовага.

Цікава, ці істотна скарацілася колькасць пенсіянераў, калі пачала дзейнічаць новая норма?

На канец 2016 года ў органах працы, занятасці і сацыяльнай абароны значылася на ўліку 2619,3 тысячы пенсіянераў, а на канец 2017-га іх было зарэгістравана ўжо 2593,7 тысячы. То бок колькасць атрымальнікаў пенсіі скарацілася на 25,6 тысячы чалавек.

| Год | 2010 | 2011 | 2012 | 2013 | 2014 | 2015 | 2016 | 2017 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Колькасць пенсіянераў, якія стаяць на ўліку ў органах працы, занятасці і сацыяльнай абароны (тыс.чал.)** | 2468,9 | 2486,9 | 2512,2 | 2537,3 | 2559,7 | 2592,8 | 2619,3 | 2593,7 |
| **Колькасць працуючых пенсіянераў (тыс.чал.)** | 608 | 548 | 587 | 605 | 635 | 651 | 666 | 646 |

Апошнія гады, як вядома, тэндэнцыя была адваротная: колькасць пенсіянераў пастаянна расла. У 2016-м іх стала больш на 25 тысяч, у 2015-м – больш як на 33 тысячы. Характэрна, што таксама расла і колькасць працуючых пенсіянераў. Гэтая дынаміка добра бачна з табліцы.

Варта адзначыць, што, прымаючы рашэнне аб паэтапным павелічэнні пенсійнага ўзросту, прадстаўнікі ўлады заявілі, што гэтая норма дазволіць да 2023 года не павялічваць выдаткі дзяржбюджэту на выплаты пенсійных дапамог (у Фонду сацыяльнай абароны не хапае сродкаў). Лагічна ўзнікае пытанне: а што будзе пасля 2023 года? Пенсійны ўзрост ізноў прыйдзецца павялічваць?

Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.

СЯМЕЙНЫ АЛЬБОМ

## Валянціна НАВІЦКАЯ:

# «Марыць мала, каб стаць касманаўтам»

*“Дарагая тая хатка, дзе нарадзіла цябе матка”, – кажуць у народзе. Наш славуты касманаўт Алег Навіцкі вырас у беларускім гарадку Чэрвень, што пад Мінскам. Дарогу да роднага парога ён не забывае. Як толькі выдаецца вольны час (а для касманаўтаў гэта вялікая раскоша!), абавязкова наведваецца да любімай маці.*

*Мы таксама завіталі ў госці да Валянціны Эдуардаўны Навіцкай і за кубачкам духмянай гарбаты пагарталі сямейны альбом.*








У Алега і Юліі Навіцкіх падрастаюць дзве дачушкі.

Утульны пакой. Заліты сонцам падаконнік застаўлены вазонамі з белымі і ружовымі архідэямі, на сцяне вісіць дыван з арнаментам, а на стале побач з абразамі стаіць фотакартка сына. Мы гартаем сямейны альбом і ўспамінаем мінулае.

Калі Юрый Гагарын паляцеў у космас, Валянціне было 11 гадоў. З памяці дзяўчынкі не сцерліся хвалюючыя моманты легендарнай падзеі:

– Гэта былі неверагодныя адчуванні – чалавек паляцеў вышэй зорак, у нязведаны свет! Страх, радасць, трывога, шчасце – эмоцыі перапаўнялі. У нашым невялікім гарадку ўсе ад малога да вялікага абмяркоўвалі гэтую навіну, на вуліцы дзяліліся сваімі перажываннямі – жылі ж раней як адна вялікая сям’я. Памятаю, мама завіхалася па гаспадарцы ў хаце і ўсё паўтарала: “Як ён там, што ён там бачыць?” Прызямленне касманаўта стала сапраўды ўсеагульным святам. У школах праходзілі ўрачыстыя лінейкі, на вуліцы грымела шматразовае “ўра”, усе абдымаліся, віншавалі адзін аднаго. Урокаў у тыя дні не адмянялі, але зразумела, што навучальны працэс быў скамечаны.

Сёння нярэдка чую: “Навошта зноў паляцелі ў космас? Што ім там трэба?” Крыўдна! Не разумеюць, што касманаўты навуковыя эксперыменты праводзяць на МКС (міжнароднай касмічнай станцыі) – за адзін палёт больш за паўсотні важных даследаванняў. Працуюць яны ў небе, каб нам на Зямлі жылося лепш.

**– Валянціна Эдуардаўна, расскажыце, калі ласка, як Алег Навіцкі здзейсніў мару – не толькі сваю, але і амаль кожнага другога хлопчыка – стаў касманаўтам? Гены, упартасць, шанцаванне?**

– Проста марыць стаць касманаўтам – мала, неабходна выхаваць у сабе працавітасць, стараннасць і скрупулёзнасць у адносінах да справы. Алег рос менавіта працавітым і стараннным. У яго дзённіку былі толькі добрыя адзнакі. Ён вельмі шмат чытаў, цікавіўся ваеннай літаратурай, фантастыкай – часам так захапляўся чытаннем, што прыходзілася кніжкі адбіраць. Да гэтага часу не ведаю, калі сын пачаў мроіць пра авіяцыю. Ваенных ні ў нашым родзе, ні сярод нашых сяброў не было: муж быў наменснікам старшыні калгаса, я – закройшчыцай у Доме быту. Мабыць, Алег пацягнуўся за стрыечным братам Ігарам, які быў трохі старэйшы і пасля школы паступіў у лётнае вучылішча.

Пасля першай медкамісіі ў ваенкамаце Алег ужо ведаў дакладна, што ў лётчыкі вельмі жорсткі адбор. Трэба мець выключнае здароўе, а таксама рост 178 сантыметраў – не менш. І Алег стаў руплівa і старанна рыхтавацца. Яму давялося падцягваць не толькі фізіку і матэматыку, але і… рост! Бацька змайстраваў каля хаты турнік. Як толькі выдавалася вольная хвілінка, Алег бягом туды – займацца. Ён недзе прачытаў, што такім чынам можна выцягнуцца. У выніку за два гады прыплюсаваў сабе да росту 3 сантыметры. Такую меў сілу волі!

Здаў школьныя экзамены, а выкліку з лётнага вучылішча няма, на пошце недзе затрымаўся. Прыйшла позва са спазненнем, адразу ж бацька сеў за руль сваіх “Жыгулёў”, і ноччу яны з Алегам памчаліся ў Барысаглебск у Варонежскую вобласць. У вучылішча прыехалі за 15 хвілін да заканчэння прыёму дакументаў, выпускны вечар у школе з-за гэтай мітусні сын прапусціў.

Тое, што лётнае вучылішча знаходзілася далёка ад роднага дома, толькі станоўча паўплывала на сына, на станаўленне яго як мужчыны і прафесіянала. Мы не мелі магчымасці часта да яго наведвацца, прывозіць нейкія гасцінцы, дапамагаць парадамі. Алег мог разлічваць толькі на сябе, на свае сілы, і ён прымаў па-даросламу ўсвядомленыя рашэнні, самастойна адказваў за свае ўчынкі. Мы ледзьве паспявалі запамінаць новыя гарады, дзе вучыўся ці служыў сын, новыя адрасы, з якіх прыходзілі лісты. Новымі пасадамі і прызначэннямі Алег ніколі не выхваляўся. Навіна, што сын паляціць у космас, для сям’і была як гром сярод яснага неба.

– Чарговы набор у атрад касманаўтаў абвясцілі, калі Алег заканчваў Ваенна-паветраную акадэмію імя Юрыя Гагарына, – узгадвае Валянціна Эдуардаўна. – Нам з бацькам пра свае планы ён не расказваў да апошняга, відаць, не хацеў, каб трывожыліся зашмат. Аднойчы, праўда, абмовіўся з усмешкай: “Вось палячу я ў космас…” Пасмяяліся мы: ну і жартаўнік!

А неўзабаве муж прыбягае з працы, бачу, нейкі ўвесь знерваваны. Працягвае мне газету, а там фотаздымак Алега і побач напісана, што яму прысвоена кваліфікацыя “касманаўт-выпрабавальнік”, што цяпер ён праходзіць падрыхтоўку ў якасці камандзіра касмічнага карабля. Мы з бацькам тады праплакалі ўвесь вечар, так расперажываліся. У галаве не ўкладвалася: наш Алег ляціць у космас?!

Поўнае ўсведамленне рэчаіснасці прыйшло ў Каралёве, дзе мы з нявесткай назіралі за стыкоўкай карабля са станцыяй. Ноччу я не заплюшчыла вачэй, усё хвалявалася. А на наступны дзень Алег патэлефанаваў нам з борта МКС. Як толькі пачула голас сына, камень з душы зваліўся: “Усё добра, мама, не хвалюйся дарэмна, паберажы сябе”.

**– На пачатку гэтага года медкамісія прызнала Алега Навіцкага прыдатным да новага палёту, які стане трэцім на яго рахунку. Што адчувае матчына сэрца, ведаючы, што яе сын знаходзіцца ў касмічнай Адысеі?**

– Я самая звычайная мама. Як і ўсе іншыя, перажываю за свайго сына, чакаю яго з нецярпеннем, не сплю па начах, малюся за яго. Кожны раз малюся Богу, каб усё было добра, – Валянціна Эдуардаўна падносіць да вачэй насоўку. – Страх, трывога, хваляванне не пакідаюць. Памятаю, пасля другога запуску месяц правяла ў бальніцы, праявіліся праблемы з сэрцам. Але ж я ведаю, што сын ўлюбёны ў неба, у сваю прафесію. Веру, што анёл-ахоўнік абароніць яго ад бяды і ліха.

Кожны дзень касманаўта на арбіце распісаны па гадзінах і хвілінах, але ў сына ёсць магчымасць выходзіць з роднымі на сувязь. Бывае, з-за шуму чуеш толькі некалькі слоў, аднак на сэрцы адразу лягчэй становіцца. Апошнім разам Цэнтр кіравання палётамі ладзіў сеансы відэасувязі ажно на паўгадзіны. Нізкі паклон навукоўцам за такую фантастычную магчымасць!

Дарэчы, цяпер у тэлефоне можна ўсталяваць праграму, якая паказвае траекторыю руху МКС. Можна даведацца дзень і час, калі станцыя будзе пралятаць над нашым горадам, убачыць гэтую светлую кропку і ў думках пагаварыць з касманаўтамі. Калі сын у палёце, вечарамі я часта ўзіраюся ў зорнае неба. Чакаю той гадзіны, калі касмічная станцыя пралятае над Беларуссю. Міргаючая кропка з’яўляецца на небасхіле, я гляджу на яе і ўяўляю, чым жа мой сынок там цяпер займаецца: збіраецца вячэраць або размаўляе з напарнікам? Ці, можа, фатаграфуе нашу прыгожую планету?

***

Валянціна Эдуардаўна – шчаслівая маці і бабуля. Яна нарадзіла і выхавала траіх дзяцей. Жанчына з гонарам кажа, што яе сыны і дачка ніколі не былі лайдакамі. Працавалі шмат і ведалі цану любой працы. Жыццё ў невялікім гарадку падпарадкоўвалася звычайным сялянскім клопатам: вады прынесці, дроў нарыхтаваць, сена назапасіць, бо гаспадарка заўсёды мелася – карова, кабанчыкі, куры… Валянціна Эдуардаўна смяецца: маўляў, я і зараз не супраць, каб завесці жыўнасць, ды дзеці не згаджаюцца, просяць пабераўчы здароўе.

Цяпер Валянціна Навіцкая з задавальненнем няньчыцца з унукамі, якіх у яе шэсць – тры дзяўчынкі і тры хлопчыкі. “Алег не так даўно ў другі раз стаў бацькам. Старэйшая яго дачка Яна заканчвае вучобу ва ўніверсітэце Дружбы народаў, а малодшай у красавіку споўнілася тры гады. Улетку ўнукам у мяне ў Чэрвені асабліва прывольна. Раздолле – бегаюць па садзе, гуляюць ды ласуюцца клубніцамі, вішнямі, малінай. Летнія школьныя канікулы і для мяне цяпер жаданы час – побач з унукамі душа радуецца”.

### Парады касманаўта Алега Навіцкага

Чалавек, які марыць пра палёты ў космас, павінен быць здаровы не проста на дадзены момант, а мець пэўны запас трываласці арганізма. Ніхто не будзе рыхтаваць касманаўта, які здольны справіцца толькі з адным палётам.

У нашай прафесіі даволі жорсткі адбор. З моманту залічэння ў атрад касманаўтаў пачынаюцца рэгулярныя заняткі фізкультурай. Спортам я займаюся мінімум двойчы на тыдзень: больш – можна, менш – нельга! Трэніруючыся, раблю практыкаванні на сілавых трэнажорах і гімнастычных снарадах, бегаю, чаргуючы дыстанцыі па 4–5 кіламетраў і 100 метраў.

На МКС таксама штодня займаюся па 3–4 гадзіны. Гэта вельмі важна, таму што на працягу некалькіх месяцаў на арбіце касманаўты пазбаўлены натуральных фізічных нагрузак. У бязважкасці мышцы пачынаюць атрафіравацца, кальцый вымываецца. Заняткі спортам дапамагаюць абараніць арганізм ад неспрыяльных фактараў касмічнага палёту. У харчаванні імкнуся прытрымлівацца правіла: колькасць з’едзенага павінна раўняцца колькасці расходаванай энергіі, за суткі прыкладна 2500–3000 калорый.

**Хрысціна ХІЛЬКО** («Алеся»).

**Фота з сямейнага альбома В.Навіцкай.**

З ПІСЬМА

## Так павінна быць на ўсёй нашай планеце

Мне вельмі спадабалася інтэрв’ю з лаўрэатам Нобелеўскай прэміі Святланай Алексіевіч “Я спадзяюся, што мы ўвойдзем у новую эпоху без крыві…”. Так павінна быць на ўсёй нашай планеце.

**Леанід РАСІЯНСКІ, ветэран вайны.**

З НАГОДЫ

## Які ж гэта «Дом афіцэраў»?

Я жыву ў мінскім мікраараёне “Сцяпянка” і ганаруся, што мой дом стаіць на вуліцы імя Героя Беларусі Уладзіміра Карвата, а не нейкага там бальшавіцкага дзеяча. Праўда, яшчэ гады тры-чатыры таму на аўтобусных маршрутах №43 і 95 прыпынак аб’яўлялі як “Улица Владимира Ко́рвата”. Прыкра было слухаць, як перайначвалі прозвішча.

Я неаднаразова падыходзіў да вадзіцеля і рабіў заўвагу, а той паціскаў плячыма: маўляў, у яго так запісана, ён толькі ўключае запіс. Цяпер жа прыемна слухаць аб’явы на беларускай мове ва ўсім сталічным грамадскім транспарце.

Але гаворка пойдзе пра іншае. У цэнтры вуліцы Карвата ёсць прыпынак “Дом афіцэраў” – каля трохпавярховага будынка. У ім сапраўды калісьці быў Дом афіцэраў, а сёння ён нагадвае дом бамжоў – гэткі неахайны на выгляд. Праўда, у будынку размяшчаюцца нейкія фірмы, майстэрня па рамонце абутку, прыём заказаў на выраб помнікаў і г.д.

Аднойчы каля будынка здымалі кіно. Відаць, кіношнікам патрэбны быў самы занядбаны, аблезлы дом. Я ішоў міма, а на здымачнай пляцоўцы якраз быў перапынак на абед. Пытаюся: “Хлопцы, вы што, хочаце ўвекавечыць наш Дом афіцэраў?” А яны ў адказ: “Дык жа Дом афіцэраў – стыльны і прыгожы – у цэнтры Мінска”. Я параіў прайсці 100 метраў і прачытаць, як называецца аўтобусны прыпынак. Пайшоў адзін, прачытаў, вярнуўся і кажа: “Гэта ганьба ўсім беларускім афіцэрам!”

Я яго паправіў: ганьба не афіцэрам, а мінскім уладам. Нядаўна на маршруце №95 памянялі назвы прыпынкаў: “Дачы” сталі “Парніковым” (гэта там, дзе была дача Цанавы), “Катэджны” стаў “Язмінавым”. Прыемна гучыць. Маглі б і для “Дома афіцэраў” падшукаць якую-небудзь мілагучную беларускую назву.

**Веніямін МАШКОЎ.**

*Мінск.*

ЗАЦЕПИЛО

## Снова парад…

3 июля в Беларуси снова состоится военный парад, сейчас идут репетиции.

Видно, не случайно чиновники скрывают от народа стоимость военного парада в Минске. В прошлом году независимые эксперты подсчитали, что минимальные предположительные затраты бюджета на подготовку и проведение военного парада составляют более 2.367.000 долларов: транспортировка военных, украшение города, пошив праздничной формы, топливо для техники, салют и затраты ЖКХ.

В то же время в Бобруйске уже который год не могут даже начать реконструкцию детской больницы, на которую требуется около 4 миллионов долларов. То есть при отказе от парадов в течение двух лет детки могли бы лечиться в современном медучреждении.

**Анна ГОНЧАРИК.**

ПОРАЗМЫШЛЯЕМ…

## Почему в агропромышленном комплексе заведено 49 уголовных дел…

Прочитал в «Народной Воле» за 15 мая заметку о том, что по линии Госконтроля страны заведено 49 уголовных дел, связанных с бесхозяйственностью в агропромышленном комплексе. У меня сразу возник вопрос: что мешает людям нормально работать? После долгих раздумий пришел к выводу, что вся беда в отсутствии у нас частной собственности на землю. Она по-прежнему «общая», а значит – ничья. А раз нет у земли единого хозяина, то и работают на ней, образно говоря, поденщики, временщики. У них голова болит не столько о рачительности, эффективном использовании каждого клочка угодий, сколько о том, как бы нажиться, что-то урвать. Отсюда и бесхозяйственность, и нарушение законодательства.

Привожу слова известного гуманиста, великого ученого Н.А.Бердяева: «*Собственность по природе своей есть начало духовное, а не материальное. Она предполагает не только потребление материальных благ, но и более устойчивую и преемственную духовную жизнь личности в семье и роде… Собственность есть воплощенная связь отцов и детей… Коллективизм, отрицающий всякое право собственности, есть рабство личности у стихийных сил природы. Частная собственность на землю есть более одухотворенное отношение к земле, чем национализация и социализация земли. Частная собственность на землю делает возможной любовь к земле, к полю, лесу, вот к этому дереву, около которого сидели деды и прадеды. Она поддерживает связь времен и поколений*». Согласитесь, пророческие слова. Сказаны они были в далеком 1918 году, но крайне актуальны и теперь. Большевики, отрешив человека от собственности, фактически лишили его возможности пользоваться результатами своего труда.

А кто не знает имени выдающегося реформатора Петра Аркадьевича Столыпина?! Он был убежден, что разрешение экономического кризиса в стране возможно лишь с опорой на самостоятельных земельных собственников. Говоря иными словами, Столыпин стоял у истоков зарождения фермерства. Более того, Столыпин прекрасно понимал, что дать крестьянину вольную – это лишь полдела. Надо политически и экономически защитить его. Был создан крестьянский банк, из которого крестьяне получали ссуды. Было создано 200 тысяч хуторских хозяйств, которые с приходом к власти большевиков и коллективизацией были уничтожены.

Приведу такие слова П.А.Столыпина: «*Настоящий прогресс земледелия может совершаться только в условиях личной земельной собственности, развивающей в собственнике сознание как права, так и обязанностей*».

Столыпинская реформа дала мощный импульс промышленности и торговле. По темпам экономического развития Россия в начале прошлого века вышла на первое место в мире. Если кто не доверяет Столыпину, то пусть прочитает статью В.И.Ленина «О продналоге», в которой сказано, что революция будет проиграна, если советские крестьяне не уподобятся американским фермерам. Как в воду глядел вождь мирового пролетариата: с уничтожением хозяина на земле пришел конец и советской власти.

Реалии сегодняшнего дня, здравый смысл и многочисленные факты начисто разбивают миф об эффективности так называемой колхозно-совхозной системы. Будущее, я считаю, за фермерским движением и частной собственностью на землю. Только когда появится на ней реальный хозяин – будет изжита криминальная среда для нечистых на руку людей. И не будем мы читать о том, что в агропромышленном комплексе процветает бесхозяйственность, и правоохранительные органы возбуждают одно уголовное дело за другим.

Реальный владелец земли не будет сам у себя красть. Он будет днем и ночью думать о том, как наиболее грамотно, наиболее эффективно вести хозяйство, с полной отдачей использовать каждый центнер минеральных удобрений, каждый клочок земли.

**Александр ЗАРЕНОК, житель д.Сирод Калинковичского района.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
1 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

ПРИГЛАШЕНИЕ

# Идём на шведов!

*Завтра площадь Свободы в нашей столице украсится шведскими флагами – в честь Дня Швеции, который проводит посольство этой страны при участии минских городских властей, а также шведских и белорусских компаний. Ожидается большой праздник музыки, спорта и, конечно же, кулинарии: еда, согласитесь, как ничто другое сплачивает и сдруживает народы.*

День Швеции проходит в Минске второй раз. В прошлом году к вечеру он собрал на площади примерно десять тысяч горожан. Наверняка и в этом году людей будет не меньше. Но о чем действительно волновалась накануне Чрезвычайный и Полномочный Посол Швеции в Беларуси **Кристина ЮХАННЕССОН** *(на фото)*, так это о погоде.

С журналистами госпожа посол говорила на чистейшем русском. Когда-то она начинала свою работу в шведском МИД в качестве переводчика и по образованию – филолог, специализирующийся на русском языке и литературе.

Кристина Юханнессон рассказала о некоторых главных акцентах праздника. Она перечислила музыкантов, которые станут настоящим украшением дня: приедет популярный шведский певец Джей-Джей Иохансон, также в Минске появится звезда шведской попмузыки Йенни из группы Ace of Base, которая вечером около Ратуши вместе с белорусской Akute даст общий концерт.

Будут и сюрпризы другого рода. Группа компаний Volvo продемонстрирует свои последние модели грузовиков, автомобилей и экскаватора. На индустриальной площадке компания Husqvarna покажет робота-газонокосилку – мечту всех обладателей дачных лужаек. Не обойдется без зоны красоты: ее на площади Свободы построит известная почти каждой женщине в нашей стране компания Oriflame. А вот настоящий гастрономический театр (он развернется во дворике гостиницы «Монастырская») будет работать под руководством флагмана шведской бытовой техники Electrolux. И они там, пообещала госпожа посол со знанием дела, будут творить на своем оборудовании настоящие чудеса.

Вообще с едой на Дне Швеции будет все нормально. На площади развернут фудкорт с национальными шведскими блюдами – об этом позаботятся двенадцать ресторанов. Кстати, если кто-то думает, что шведская кулинария так же минималистична и строга, как шведский дизайн, то он ошибается. Например, сдоба у шведов может посоперничать с французской. А ведь есть еще жареная рыбка и селедочка… Это вообще произведение кулинарного искусства!



Хотя встреча с послом была посвящена празднику и проходила в неформальной обстановке, обойти политику журналисты не смогли и задали вопрос о назначении нового белорусского посла в Швеции.

– Конечно, хочется, чтобы диалог между нашими странами развивался полноценно, а для этого нужно, чтобы в обеих столицах функционировали посольства, – сказала Кристина Юханнессон. – Сейчас ваше посольство в Стокгольме заработает в полную силу. Мы знаем, что у нового белорусского посла Дмитрия Мартинчика есть четкое задание: развивать торгово-экономическое сотрудничество между нашими странами. На самом деле торговое сотрудничество идет, но не всегда отражается в экономической статистике. Очень много делается через другие страны, хотя и шведскими компаниями. Но мы действительно очень заинтересованы в развитии диалога.

Возвращаясь к празднованию Дня Швеции в столице Беларуси, посол посчитала нужным отметить такую современную тему, как правильная сортировка мусора – любой городской праздник оставляет после себя горы отходов. Госпожа Юханнессон подчеркнула:

– В нашей стране при довольно строгой политике со стороны государства мы добились немалых успехов в этом плане. Сегодня Швеция отправляет лишь один процент домашних бытовых отходов на полигоны – все остальное сортируется и утилизируется.

Закончили пресс-конференцию любимой темой – спортом. Конечно, завтра на площади Свободы будет флорбол (хоккей с мячом). А также скандинавская ходьба и настольный хоккей. Все смогут хорошенечко размяться. А во что предпочтет играть шведский посол?

– Боюсь, что в настольный хоккей.

**Елена МОЛОЧКО.**

АМБІЦЫІ

## Былы пасол Украіны ў Беларусі пойдзе ў прэзідэнты

Дыпламат і прадстаўнік Украіны ў мінскай кантактнай групе Раман Бязсмертны абвясціў пра свой намер балатавацца ў прэзідэнты.

*«Будучым для сябе я лічу балатаванне ў прэзідэнты. Я сапраўды буду балатавацца»,* – цытуе Бязсмертнага «ВВС Украіна».

Палітык таксама дадаў, што прыйдзе час, і ён аформіць адпаведныя дакументы.

СЛЫШАЛИ?

## Власти Австрии хотят увязать размер пособий со знанием немецкого

*Австрийская правящая коалиция собирается сократить размер государственных социальных пособий для лиц, которые не смогут подтвердить свое знание немецкого языка. Соответствующие планы озвучил федеральный канцлер Себастьян Курц.*

*Об этом пишет Deutsche Welle.*

*"Основное правило, которое мы введем, будет заключаться в том, что немецкий станет ключом к получению минимальных выплат в полном объеме,* – сообщил Курц. – *Это значит, что тот, кто в недостаточной мере владеет языком, не сможет полностью на них претендовать".*

Канцлер Австрии уточнил, что большая часть лиц, пользующихся данными выплатами, проживает в Вене. Примерно половина из них иностранные граждане.

В соответствии с нововведением размер минимального пособия на одного человека составит 563 евро (656 долларов) в месяц.

Для австрийцев сумма может быть увеличена до 863 евро (1003 доллара) в месяц, и то только при условии успешной сдачи языкового теста. Пособия на детей также будут сокращены.

В соответствии с директивой о свободе передвижения рабочей силы в Евросоюзе иностранные граждане должны быть равны в своих правах с австрийцами. На вопрос о том, не нарушает ли новая инициатива закон, Курц ответил, что решение на этот счет вправе выносить лишь Конституционный суд Австрии.

## Во Франции за год бросили курить миллион человек

*Рекордное падение числа курильщиков за последнее десятилетие зафиксировано во Франции. В сравнении с 2016–2017 годами их стало меньше на миллион. Об этом свидетельствуют результаты соцопроса, проведенного службой общественного здравоохранения Франции. В том числе отмечается снижение числа курильщиков среди подростков и представителей групп населения с низким уровнем доходов.*

Возможной причиной этого в исследовании называют принятые недавно во Франции изменения антитабачных норм. В частности, за последние годы в стране ввели одинаковые упаковки для всех марок сигарет, компенсации для тех, кто использует заменители табака, а также повысили цены на табачные изделия и проводили такие кампании, как, например, Национальный месяц без курения.

Согласно исследованию, в 2017 году среди французов в возрасте от 18 до 75 лет ежедневном курили 26,9%, а годом ранее – 29,4%. В абсолютных цифрах это означает, что число курильщиков уменьшилось с 13,2 миллиона до 12,2 миллиона.

## А что с курением в мире?

Рост населения на планете привел к тому, что абсолютное число курильщиков также выросло. В мире табак становится причиной каждой десятой смерти. Половина всех этих случаев приходится на долю всего четырех стран: Китая, Индии, США и России, – утверждается в профильном медицинском журнале Lancet. В анализе показателей табакокурения по странам предупреждают: *«Эпидемия курения экспортируется из богатых стран мира в государства со средним и низким достатком».*

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Гаштольды


Рэзідэнцыя Гаштольдаў у Геранёнах.

Калі ў 1440 годзе змоўшчыкамі быў замардаваны ў Троках вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч, паўстала пытанне аб ягонай замене. Кароль польскі Уладзіслаў III Варненьчык у якасці свайго намесніка адаслаў у Вільню роднага брата Казіміра. Але група магнатаў на чале з Янам Гаштольдам вырашыла па-свойму. Яны падпалі польскіх гасцей і ноччу 29 чэрвеня ў кафедральным касцёле абвясцілі 13-гадовага сына Ягайлы і Соф'і Гальшанскай вялікім князем. Казіміру ўручылі Гедымінаў меч і ўганаравалі мітрай.

Ян Гаштольд стаў апекуном і выхавацелем малалетняга гаспадара Княства, а фактычна кіраваў дзяржавай ад яго імя. І не хацеў, каб Казімір станавіўся і каралём польскім. Калі ж Ягайлавіч заняў і гэты вышэйшы пасад, Ян аказаўся ў апазіцыі. Тады караль адабраў у яго родавую рэзідэнцыю Геранёны Мураваныя, але пакінуў Яна віленскім ваяводам, пасада якога лічылася адной з важнейшых у Княстве. А ўжо без Казіміра вярнуліся да Гаштольдаў і Геранёны.

Гісторыкі адзначалі, што Ян быў паслядоўным праціўнікам інкарпарацыі Вялікага Княства Літоўскага ў Каралеўства Польскае. У гэтым ён актыўна падтрымліваў Вітаўта. Пасля смерці вялікага князя Ян узначальваў апазіцыю каралю, дабіваўся адхілення яго ад улады на карысць то Міхаіла Кейстутавіча, то Радзівіла Осцікавіча, то свайго зяця кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча, замужам за якім была яго дачка Марыя.

Ян толькі адзін з прадстаўнікоў магутнага магнацкага роду Гаштольдаў, які пазней стаў графскім. А яшчэ называлі іх Гастаўтамі, Гастоўтамі, Гоштаўтасамі. Калі ў 1413 годзе на Гарадзельскім сейме першыя 47 баяр ВКЛ прынялі гербы вядомых польскіх родаў, сярод іх быў і Ян. З таго часу Гаштольды карысталіся гербам «Габданк». У XIV–XVI стагоддзях яны займалі высокія дзяржаўныя пасады ў ВКЛ і Польшчы, валодалі мноствам маёнткаў на землях усходняй Літвы і заходняй Беларусі. Былі сярод іх выдатныя гаспадарнікі, духоўныя асобы, ваяры, дзяржаўныя дзеячы, многія сталі вядомымі мецэнатамі.

Аднак і ў адной сям'і не абыходзіцца без непаразуменняў. Ян лічыўся кіраўніком вялікалітоўскай апазіцыі. А яго сын Марцін – ваявода кіеўскі, а пасля трокскі, маршалак земскі- аддана служыў каралю польскаму Казіміру Ягелончыку. Калі супраць караля была выкрыта змова, Марцін аказаўся сярод тых суддзяў, хто аддаў Міхаіла Алелькавіча і Івана Гальшанскага на смерць. Не дапамаглі нават сваяцкія повязі: першай жонкай Марціна была дачка Сямёна Гальшанскага, а другой – дачка Юрыя Гальшанскага.

Згодна з летапісам, пачынальнікам роду лічыцца Крумпа – гетман літоўскага князя Ердзівіла. Пасля пераносу сталіцы ВКЛ у Вільню Крумпа стаў першым віленскім ваяводам. Ад ягонага сына Гаштольда і пайшоў знаны праваслаўны род.

Гаштольд быў заканаты ў каталічку Бугацкую і, каб узяць яе за жонку, мусіў памяняць веру, атрымаў імя Пётр. Гэта ён запрасіў у Вільню першых манахаў-францысканаў, пабудаваў для іх кляштар і касцёл Святога Крыжа. Калі ж манахі загінулі пакутлівай смерцю, прывёз новых і ўзвёў для іх касцёл Святой Дзевы Марыі.

Мястэчка Геранёны, якое цяпер у Іўеўскім раёне, называлі і Гаштольдавымі, і Мураванымі. Пасля Яна імі валодаў ваявода навагародскі, полацкі, трокскі і віленскі, канцлер ВКЛ Альбрэхт Гаштольд. Рана страціўшы бацькоў, выхоўваўся ў сваёй бабулі Ганны Гальшанскай. На пачатку XVI стагоддзя ён збудаваў у Геранёнах багата аздоблены і магутны замак. У 1529 годзе атрымаў тытул графа Свяшчэннай Рымскай імперыі, а Мураваныя Геранёны пачалі лічыцца графствам. Альбрэхт стаў прызнаным палітычным дзеячам Княства, актыўна змагаўся за яго самастойнасць. Належаў да самых багатых землеўласнікаў, меў вялікія надзелы ў Трокскім, Віленскім, Луцкім, Ашмянскім, Менскім і іншых паветах.

Варта адзначыць і такі цікавы факт. Кароль польскі дазволіў яму карыстацца пячаткай з чырвонага воску, узвялічыўшы такім чынам да статусу каралеўскай асобы, бо ўсе іншыя мусілі ўжываць зялёны воск. Выхаванец Кракаўскага Ягелонскага ўніверсітэта Альбрэхт спрыяў таму, каб група падлеткаў з яго родных Геранёнаў трапіла на вучобу ў гэтую прызнаную ў Еўропе навучальную ўстанову. Ён арганізаваў школы ў Геранёнах і Трабах.

Не аднойчы змагаўся з крымскімі татарамі. У 1505 годзе адбіў іхні напад на Навагародскі замак. Часта знаходзіўся ў атачэнні польскага караля пры вырашэнні важных дзяржаўных спраў і дыпламатычных місій. Браў удзел у стварэнні першага Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 года.

Сёння бадай што ўсе ведаюць Барбару Радзівіл як жонку караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. І мала хто звяртае ўвагу, што спачатку яна была замужам за ваяводам навагародскім і трокскім, членам Рады ВКЛ Станіславам Гаштольдам – сынам Альбрэхта. 18 мая 1537 года ў касцёле ў Геранёнах з удзелам многіх еўрапейскіх гасцей адбыўся шлюб 30-гадовага Станіслава і 17-гадовай Барбары. Яе бацька кашталян віленскі, вялікі гетман літоўскі князь Юрый Радзівіл даў дачцэ такі багаты пасаг, што спатрэбіўся не адзін дзясятак коней, каб усё дабро перавезці ў Геранёны. Пасля смерці Станіслава ў 1542 годзе не толькі замак і ўсе багацці, а нават ягоная жонка Барбара Радзівіл дасталася каралю. Род Гаштольдаў згас.

ТЕНДЕНЦИИ

## Где хочу, там и работаю!

*3,8% граждан трудоспособного возраста (20–64 года) Европейского Союза в 2017 году проживали и работали не в той стране ЕС, гражданами которой они являются.*

*Об этом сообщает Евростат.*

Эта доля увеличилась с показателя 2,5%, который был десять лет назад. В государствах – членах Евросоюза ситуация колеблется от 1,0% для граждан трудоспособного возраста Германии до 19,7% для граждан Румынии.

Выпускники с высшим образованием, как правило, более мобильны, чем остальное население. 32,4% мобильных граждан ЕС имеют высшее образование, тогда как доля для всего населения ЕС составляет 30,1%.

Уровень занятости мобильных граждан ЕС также выше, чем всего населения: 76,1%, по сравнению с общим уровнем занятости в ЕС – 72,1%.

В 2017 году румынские граждане трудоспособного возраста, проживающие за рубежом в пределах ЕС, составляли около пятой части (19,7%) своих соотечественников, проживающих в Румынии. По сравнению с 2007 годом доля румынских граждан, проживающих в другом государстве, выросла на 12,3%. Далее наибольший отток работников наблюдался в Литве (15,0%), Хорватии (14,0%), Португалии (13,9%), Латвии (12,9%) и Болгарии (12,5%).

Среди стран – членов ЕС, имеющих наименьшую долю мобильных граждан (из общей численности населения), Германия (1,0%), Великобритания (1,1%), Швеция и Франция (1,3%).

Свободное движение работников является основным принципом Договора о функционировании ЕС. Граждане ЕС имеют право искать работу в другой стране союза, работать там без разрешения на работу, проживать и пользоваться таким же отношением, как и граждане этой страны, которые имеют доступ к работе, условия труда и все остальные социальные и налоговые преимущества.

ИЗ ЖИЗНИ ОЛИГАРХОВ

## Абрамович меняет место жительства

*Российский миллиардер и владелец футбольного клуба «Челси» Роман Абрамович получил израильское гражданство и переезжает в Тель-Авив после того, как Великобритания не продлила ему визу.*

Абрамович смог получить израильское гражданство в соответствии с законом о возвращении, позволяющим евреям стать гражданами Израиля, пишет издание Times of Israel. Газета также сообщает, что он теперь является самым богатым гражданином Израиля.



Рожденный в России олигарх имел визу предпринимателя в Великобритании, срок действия которой завершился в прошлом месяце. Процесс продления визы занял больше времени, чем обычно, сообщает Reuters. Британские власти отказались называть причину затягивания, заявив, что не комментируют отдельные случаи.

По сообщениям, Абрамович прилетел в Тель-Авив в понедельник, чтобы подтвердить свой статус гражданина Израиля, и купил недвижимость в городе, сообщает Ynet.

В марте после отравления бывшего российского шпиона и его дочери премьер-министра Великобритании Терезу Мэй призвали применить ограничения против российских олигархов и «денег, связанных с режимом». Позже СМИ сообщили, что для получения визы Абрамовича обязали объяснить происхождение состояния.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

## Миллиарды евро для беженцев

*Немецкое правительство потратит на миграционную политику 78 млрд евро до 2022 года. Об этом сообщил министр финансов Германии Олаф Шольц.*

Расходы федерального бюджета составят около 70 млрд евро.

Еще 8 млрд евро, согласно коалиционному соглашению, до 2021 года должны быть направлены из федерального бюджета властям федеральных земель и коммун для покрытия их расходов на решение задач миграционной политики. Однако распределение этих средств пока не утверждено.

Наибольшей статьей расходов в миграционной политике ФРГ является борьба с причинами миграции на родине беженцев. На эти цели требуется 31 млрд евро.



Еще 21 млрд евро необходимо будет направить на социальные выплаты беженцам.

На мероприятия по их интеграции в общественную жизнь Германии, например языковые курсы, запланировано 13 млрд евро, а на регистрацию вновь прибывших мигрантов и предоставление им жилья – 5,2 млрд евро.

## Немцы считают Россию более надежным партнером, чем США

*Для 82% немцев США при президентстве Дональда Трампа не является надежным партнером в политической сфере. Об этом свидетельствуют результаты опроса, обнародованные телекомпанией ZDF, сообщает Deutsche Welle.*



Доверяют Америке Трампа лишь 14% респондентов.

Дефицит доверия особенно заметен на фоне отношения немцев к России и Китаю. Так, Россию назвали надежным партнером 36% респондентов. Противоположного мнения придерживаются 58% опрошенных.

В отношении Китая мысли немцев разделились поровну: 43% считают эту страну надежным партнером и ровно столько же – ненадежным.

Наибольшее доверие к России (61%) испытывают сторонники правопопулистской партии «Альтернатива для Германии». Среди левых России доверяют 45%, а не доверяют 49%. Наибольший скепсис по отношению к России испытывают сторонники христианских партий (61%), СДПГ (65%), Свободной демократической партии (58%).

Кроме того, как показал опрос, экономические санкции против России, введенные после аннексии Крыма и агрессии на востоке Украины, одобряют 45% немцев, в то время как 36% выступают за их смягчение. Лишь 14% респондентов выступают за усиление штрафных мер против Кремля.

Народная Воля http://www.nv-online.info
1 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак У №№31–43.)*

## Расфарміраванне калгаса

З ліквідацыяй паводле распараджэння акупантаў калгасных жывёлагадоўчых фермаў і перадачы іх статку на карысць Трэцяга рэйха для ўсіх магілян стала зразумелым, што набліжаецца канец панавання калектыўнай формы працы на зямлі. Не ўтойвала гэтага і мясцовая ўлада. Дзесьці ў студзені-лютым 1942 года яна арганізавала сустрэчу магілян з прадстаўніком Вузды (насіў вайсковую форму), які адказваў за эканамічнае становішча раёна. Прысутных больш за ўсё хваляваў памер падаткаў за прыватнае карыстанне зямлёй. Як высветлілася са слоў гэтай асобы, што ён нават меншы, чым за царскім часам. Магілян такое абрадавала, і яны яшчэ з большай нецярплівасцю чакалі, калі ж усё-такі прыйдзе канец калгасу. Адбылося такое ранняй вясною 1942 года да пачатку палявых работ. Такія кардынальныя перамены ў сельскай гаспадарцы не дужа абрадавалі нашу сям'ю, бо з-за хваробы таты не было каму працаваць на зямлі. Добра запомніў, як дзялілі коней паміж людзьмі: цягнулі жэрабя. Рабілася гэта каля самай канюшні. Аднаго рабочага каня давалі на тры гаспадаркі. Некаторыя давяралі цягнуць жэрабя каму-небудзь са сваіх дзяцей у надзеі на абавязковую ўдачу. Нам разам з Букавымі і Ёдкавымі (вулічныя назвы сем'яў) выпаў нішчаваты конь разам з гадавалым жарабём. Тата ўсё-такі не вытрымаў і, калі пачаліся вясновыя палявыя работы, запрог каня, ускінуў на воз плуг, загадаў маме і мне садзіцца, і мы рушылі араць сваю зямельку. Тата мала пахадзіў за плугам, бо хутка стаміўся. Прадоўжыць распачатую працу давялося маме. Мяне ж абавязалі добра прыглядацца, як трэба араць поле. Здаецца, і ўважліва прыглядаўся, але як першы раз стаў за плуг, нічога не атрымалася. Праз два дні, калі да нас ізноў прыйшла чарга працаваць на кані, таксама ўсе ўтраіх паехалі на поле. Адведзены на гэты раз пад ворыва ўчастак поля намнога лепш паддаваўся плугу, і сёе-тое ў мяне пачало атрымлівацца. Не ведаю, у каго ад гэтага было больш радасці – у таты, мамы ці ў мяне. Не магу не сказаць словы шчырай удзячнасці суседзям па зямельных участках. Думаю, што ў першы год вядзення прыватнай сельскай гаспадаркі яны на нашым полі больш узаралі зямлі, чым мае тата, мама і я. Такое ж можна сказаць і пра касьбу. Праўда, да яе добра прыклаў руку і мамін брат Валодзя. Будучы курсантам Кіеўскага ваеннага медыцынскага вучылішча, ён удзельнічаў у абароне горада ад нямецкіх захопнікаў. Пасля здачы горада ворагу з вялікімі цяжкасцямі дабраўся дамоў і дапамагаў бацькам па сельскай гаспадарцы. Не забываўся і на сваю старэйшую сястру Жэню, добра ведаючы, якія цяжкасці выпалі на яе долю.

Проста нельга не дзівіцца з прадпрымальніцтва некаторых магілян. Не мінула і двух месяцаў пасля падзелу зямлі, а яны ўжо за вядомыя толькі ім самім сродкі набылі ў вёсках і на хутарах былой Заходняй Беларусі добрай пароды коней і дапамагалі людзям за плату выконваць розныя віды сельскагаспадарчых работ. Словам, усе звязаныя з сяўбой, касьбой, уборкай ураджаю работы былі праведзены значна лепш, чым гэта рабілася ва ўмовах калгаснага ладу. Вынікам сваёй працы засталася задаволенай і наша сям'я. Вось толькі з-за маёй вялікай занятасці па гаспадарцы ледзь не цалкам закінуў прыбытковы грыбны промысел.

Занятыя з ранку да позняга вечара працай людзі нават забываліся, што яны жывуць у час, калі ідзе вайна, на іх зямлі пануе акупацыйны нямецкі рэжым. У сваіх кароткіх з-за вялікай занятасці размовах магіляне амаль зусім не абмяркоўвалі выкліканага вайной і акупацыяй становішча. Уся гаворка вялася ў асноўным пра ход сельскагаспадарчых работ. Міма ўвагі дарослага насельніцтва мястэчка праходзілі рэдкія факты з'яўлення ў ім нешматлікіх па колькасці партызанскіх груп, а калі адна з іх дзесьці позняй восенню 1942 года паралізавала працу мясцовай малачарні, людзі нават наракалі на такую акцыю, баючыся, што зараз могуць абавязаць іх здаваць малако ў Вузду.

Валасная ўправа асабліва нічым не даймала месцічкоўцаў. Стваралася ўражанне, што яе нібыта зусім няма ў прыродзе. А вось стараста Рыгорка Цыбульскі вельмі часта паказваўся на людзях. З імі ў яго ніколі не было ніякіх скандальных сітуацый. Успрымаўся як свой чалавек, бо такім ён і сапраўды з'яўляўся. Забойства яго паліцэйскімі ўсе ўспрынялі за вялікую бяду.

## Стоўбцы паланілі мяне

Па твары таты я неаднойчы заўважаў, як яму адначасова і балюча, і радасна было назіраць, як мы з мамай увіхаемся на сваіх зямельных надзелах. Балюча таму, што да той жыццядайнай працы сам ён не мог з-за хваробы прыкласці рук. Радасць жа прыносіла цвёрдая ўпэўненасць, што хоць і з некаторым спазненнем, хоць і неналежным чынам, але сяўба будзе завершана. Гледзячы на нас, і ў першую чаргу на мяне, тата мог згадваць, што некалі і сам з-за ранняй смерці свайго бацькі (таксама звалі Міхасём) падлеткам ускінуў на свае кволыя плечы ўвесь цяжар сельскагаспадарчай працы. Калі на вуліцы па вечарах сталі гаварыць пра ўсходы рана пасеяных яравых культур, тата не вытрымаў і разам са мной паехаў на свае палеткі. І праўда, яны зазелянелі. Ад радасці ў яго на вачах з'явіліся слёзы. Спачатку мне здавалася, што падалося, але затым усё выразней чуліся татавы словы:

– Трэба жыць! Хочу жыць!

Яны былі паўтораны і па прыездзе дамоў у прысутнасці мамы.

– Калі хочаш жыць, – не без радасці ад пачутага сказала яна, – трэба сур'ёзна лячыцца, і не ў Вуздзе, а ў Стоўбцах. Адтуль жа ў першыя дні вайны прыехалі і пасяліліся ў Магільным Петрашэўская з двума сынамі, якія часта ходзяць да Лёні. Вось праз іх і трэба шукаць сувязі са Стоўбцамі.

Тыя хлопцы паслухалі мяне, і іх мама ахвотна згадзілася дапамагчы нам, запэўніўшы, што ў Стоўбцах мае добра знаёмых урачоў. Пакуль яшчэ стаялі цёплыя летнія дні, сталі неадкладна рыхтавацца ў дарогу. Вырашылі, што з татам паеду і я. Радасць у мяне лілася цераз край. Я яшчэ ні разу не быў у горадзе. Дый давядзецца ехаць па тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, пра якую ведаў толькі з прачытанага да вайны ў савецкіх кнігах і газетах.

У прадчуванні жаданага цікавага падарожжа ніяк не мог прымусіць сябе заснуць і вельмі абрадаваўся, што нарэшце дачакаўся таго часу, калі тата прыйшоў мяне будзіць. Снедаць не вельмі хацелася такой ранняй парой, але трэба было, бо наперадзе доўгая дарога. Вось яна і прывяла нас да броду цераз раку Нёман паблізу вёскі Луніна. Яшчэ дзве-тры хвіліны часу – і мы на тэрыторыі Стаўбцоўшчыны. Такія ж краявіды, як на маёй роднай Вуздзеншчыне, толькі хутароў у апошняй няма. А ўвагу маю яны ой як прыцягвалі. Цешылі вока раскінутыя паабапал дарогі лясы. І ўсё ж хацелася хутчэй убачыць першы ў маім жыцці горад Стоўбцы. Нарэшце ўбачыў і адразу палюбіў за яго прыгожыя вуліцы і чысціню на іх. Нязвыклым было бачыць у дзённы час шмат людзей і асабліва моладзі на вуліцах, бо ішло ж жніво. Як пазней высветлілася, гарадскія ўлады ладзілі ў той дзень нейкія мерапрыемствы для моладзі, таму яна бясконцым патокам рухалася па тратуарах у вызначанае месца.

Без асаблівых праблем знайшлі дом, гаспадыня якога бралася арганізаваць візіт у гарадскую бальніцу. Сустрэла нас вельмі ветліва. Мне прапанавалі пахадзіць па агародзе і садзе, сарваць там што душа пажадае. Паквапіцца было на што, але я вярнуўся на двор з ігрушай, яблыкам і памідорам у руках, што здзівіла гаспадыню. Яна тут жа загадала дачцэ нарваць для нас поўны кошык садавіны і агародніны. Увесь гэты дар гаспадарлівых рук высыпалі на воз і прыкрылі сенам. Час ехаць у бальніцу. Спробы таты дамовіцца пра плату лекарам былі рашуча адхілены.

– Яны мне вельмі блізкія людзі, – прамовіла стаўбцоўская незнаёмка, – і ўсё, што вам трэба, зробяць без усякай аплаты.

Так яно і сапраўды было. Па прыездзе ў бальніцу яна адразу павяла тату да доктара, а я застаўся на возе, увесь час назіраючы за няспынным рухам людзей. Колькі разоў пакідаў воз, выходзіў на іншыя вуліцы, любуючыся іх дамамі. Паглядзець было на што – гэта ж не Магільнае. З памяшкання бальніцы тата выйшаў разам з доктарам і нашай памагатай. Звонку выгляд у ўрача быў даволі сур'ёзны, але, як толькі ўбачыў мяне, на твары з'явілася ветлівая ўсмешка, і я пачуў:

– Тата твой папраўіцца, невылечнай хваробы не выяўлена.

З такім прыўзнятым настроем мы пакідалі Стоўбцы. Дзень працягваў радаваць сваім сонечным надвор'ем, цеплынёй. Лейцы былі ў маіх руках, і я пагнаў каня рыссю, каб да заходу сонца дабрацца дамоў. Спачатку зусім ціха, а затым усё гучней і гучней тата напяваў распаўсюджаныя ў нашым мястэчку песні. І па сёння дзіўлюся: яго жыхары стала зведвалі матэрыяльную нястачу, панеслі вялікія людскія ахвяры з-за масавых фізічных рэпрэсій ў 1937–1938 гадах, а з песняй ніколі не развітваліся. Яны гучалі не толькі падчас застолляў, але і па дарозе дамоў з поля, сенажаці. Не раз звяртаў увагу, як прыемны татаў голас выдзяляўся сярод астатніх, але так, як ён хораша, з душою спяваў па дарозе са Стоўбцаў у Магільнае, ніколі не даводзілася чуць. Урачы сваю справу зрабілі досыць прафесійна. Колькі дзён у таты не мелася ніякіх праблем са здароўем, што заўважалі нават і суседзі. Доўжылася так месяц ці паўтара, а затым здароўе пачало пакрысе пагаршацца. Яшчэ раз наведаць Стоўбцы не адважыліся і лячыліся ў мясцовай бальніцы, а больш за ўсё звярталіся да народных традыцыйных метадаў барацьбы з хваробай. Паслухаліся людзей і завялі нават казу ў надзеі на лекавыя ўласцівасці яе малака. Жаданых вынікаў не давялося дамагчыся.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# Ала ЦУПЕР: «Я застаюся ў спорце»

*39-гадовая алімпійская чэмпіёнка вырашыла працягваць спартыўную кар'еру.*

У 2012 годзе беларуская фрыстайлістка Ала Цупер нарадзіла дзіця, таму ўдзел у Алімпіядзе-2014 заставаўся пад пытаннем. Ды і сама спартсменка заяўляла, што той сезон будзе для яе апошнім. Праўда, затым планы змяніліся. Муж Алы Цупер і галоўны трэнер зборнай Мікалай Казека здолелі пераканаць спартсменку, што завяршэнне кар'еры – гэта не самы лепшы варыянт.

І подзвіг не прымусіў сябе доўга чакаць. На Гульнях у Сочы фрыстайлістка трыумфальна выйграла залаты медаль. Пасля гэтага Ала Цупер нарадзіла яшчэ адно дзіця, зноў вярнулася ў вялікі спорт і на Алімпіядзе-2018 у Пхёнчхане была ў кроку ад медаля, але заняла толькі 4-е месца. Спартсменка не раз давала зразумець, што збіраецца цалкам заняцца сям'ёй і бізнесам, але, як аказалася, пра гэта казаць яшчэ не даводзіцца.

*"Так, у мяне ёсць свой невялікі бізнес – магазін керамічнай пліткі,* – распавяла **Ала Цупер** "Народнай Волі". – *Але зараз аб'ём камерцыйнай работы амаль цалкам на плячах мужа. Я ж пакуль вырашыла не сыходзіць са спорту, таму зараз працягваю трэніроўкі".*

– 4 чэрвеня наша нацыянальная каманда адпраўляецца на зборы ў Швейцарыю, – дадае галоўны трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле **Мікалай Казека**. – Там будзем рыхтавацца да сезона.

**– А ў сталічным цэнтры "Фрыстайл", які адносна не так даўно пабудаваны, нельга рыхтавацца?**

– Можна, але зараз там распачалі прафілактычныя работы.

**– Ала Цупер сказала, што яна працягне выступленне за каманду…**

– І Ала Цупер, і Антон Кушнір – у складзе зборнай, таму ў нас па-ранейшаму баявы склад. Па меншай меры да чэмпіянату свету, які адбудзецца ў лютым наступнага года, яны сыходзіць са спорту не збіраюцца.

**– Магчыма, Цупер выступіць у 2022 годзе і на сваёй сёмай Алімпіядзе?**

– Так далёка мы пакуль не глядзім.

**Алесь СІВЫ.**

КАБ ПОМНІЛІ

# Прайсці па дарозе смерці…

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пабываў пад Мінскам у новым мемарыяле "Трасцянец", які адкрыецца ў гэтым месяцы.*

Пра адкрыццё мемарыяла ў чэрвені паведаміў падчас адкрыцця міжнароднага форуму "Усходняя Еўропа: у пошуках бяспекі для ўсіх" міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Макей.**

Нагадаем, што "Трасцянец" – чацвёрты па велічыні лагер смерці ў Еўропе. Назва "Трасцянец" аб'ядноўвае некалькі месцаў масавага знішчэння людзей: урочышча Благаўшчына – месца масавых расстрэлаў; лагер – побач з вёскай Малы Трасцянец за 10 км ад Мінска па Магілёўскай шашы; урочышча Шашкоўка – месца масавага спалення людзей.

Паводле афіцыйных дадзеных, усяго ў лагеры смерці "Трасцянец" загінулі больш за 200 тысяч чалавек. З іх каля 150 тысяч чалавек былі расстраляны, закапаны, а падчас нямецкага адступлення ў 1944 годзе – спалены (так нацысты хавалі сляды злачынстваў) не на тэрыторыі лагера, а побач, ва ўрочышчы Благаўшчына…

Менавіта ў гэтым урочышчы і адкрываецца зараз новы мемарыял. Ад станцыі метро "Магілёўская" да яго – два прыпынкі на аўтобусе ў бок пасёлка "Сосны".

Рабочых і тэхнікі хапае, бачна, што работа ўжо на завяршальнай стадыі. Раўнуюць зямлю, засяваюць травой… Новы мемарыял сімвалізуе дарогу смерці, якая цягнецца каля кіламетра. Ад Магілёўскай шашы да месца, дзе былі пахаваны людзі.



Плошча Жыцця.

– Вось гэта – плошча Жыцця, скульптурныя кампазіцыі "Чамаданы" і "Вагоны памяці", – распавядае мне прараб ПМК-42 **Яўген Коршун**. – Тут – плошча Парадоксаў, далей – Плошча смерці і могілкі. Увогуле, мемарыял уражвае…

**– Калі чакаецца яго афіцыйнае адкрыццё?**

– Наколькі мне вядома, мерапрыемства запланавана на 29 чэрвеня. Зараз праводзім апошнія работы.

Вядома, што плошча ў складзе комплексу можа стаць месцам, дзе змогуць праводзіць богаслужэнні прадстаўнікі ўсіх канфесій, і мяркуецца, што пазней мемарыял будзе дапоўнены інфармацыйным табло.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

*Фота аўтара.*



Дарога смерці.

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

## Вярнуць грошы за смартфон

*У мяне зламаўся смартфон. Гарантыя скончылася, але ў дакументах пазначаны тэрмін службы – 3 гады (а яны яшчэ не прайшлі). Ці магу я атрымаць грошы за тэлефон альбо патрабаваць замены?*

**Алег ЛАТУШКІН, г.Асіповічы.**

– Так, вы можаце забраць грошы. Напішыце заяву, што адмаўляецеся ад рамонту.

## Інтэрнэт-магазін змяніў цану

*У інтэрнэт-магазіне дадаў тавар у "кошык" і збіраўся яго аплаціць, аднак на наступны дзень кошт тавару ўжо павялічыўся. Ці абавязаны магазін прадаць мне тавар па цане, якая была ўказана на той момант, калі я дадаваў яго ў "кошык"?*

**Васіль ПАПРУГА, г.Маладзечна.**

– Не абавязаны, бо тавар прадаецца па цане на дзень заказу.

## Абшукалі ў магазіне

*Пасля таго як у магазіне разлічыўся на касе, пайшоў да выхаду, але там спыніў ахоўнік і прапанаваў прайсці з ім у спецыяльны пакой для надгляду. Там мяне абшукалі, але нічога крымінальнага не знайшлі. Хіба ў ахоўнікаў ёсць права так паступаць з пакупнікамі?*

**Уладзімір ХІЛЬКО, г.Барысаў.**

– У іх няма такога права, і вы маглі папрасіць Кнігу скаргаў і прапаноў, каб засведчыць гэты факт.

## Смартфон не рамантуюць

*Аддаў смартфон у рамонт. Ён ляжыць у майстэрні, мабыць, ужо каля двух месяцаў, і гэтаму ёсць доказ – гарантыйны талон. Кожны тыдзень, калі ім тэлефаную, спасылаюцца на нейкія складанасці пры рамонце і абяцаюць яго закончыць "вось-вось". Ці ёсць магчымасць прыцягнуць такіх неахайных работнікаў да адказнасці, каб паскорыць працэс рамонту?*

**Сяргей ПУЧКОЎ, г.Добруш.**

– Можаце заявіць пісьмовую прэтэнзію на парушэнне тэрмінаў рамонту і прычыненне маральнай шкоды. Адрамантаваць ваш смартфон павінны былі за два тыдні.

## Фіранкі "селі" пасля мыцця

*Набыла фіранкі па індывідуальным заказе. Праз некалькі месяцаў памыла іх, і яны пасля гэтага зменшыліся амаль на паўметра. Ніякіх рэкамендацый па эксплуатацыі мне не давалі. Што рабіць у такой сітуацыі?*

**Святлана НАВУМЕНКА, г.Жодзіна.**

– Можаце вярнуць тавар прадаўцу і атрымаць грошы. У выпадку адмовы зрабіце экспертызу і прад'явіце прэтэнзію. Вам кампенсуюць затым усе выдаткі.

## Вярнуць грошы за навушнікі

*Ці адносяцца навушнікі для тэлефона да тэхнічна складаных тавараў бытавога прызначэння? Ці можна вярнуць іх і атрымаць грошы на працягу 14 дзён, калі навушнікі неналежнай якасці?*

**Аляксей ГАРОДНІКАЎ, Гродна.**

– Навушнікі не адносяцца да тэхнічна складаных тавараў, таму вярнуць у магазін іх можна па агульных правілах.

## Сапсаваўся пульт для люстры

*Набыла люстру галагенную са святлодыёднымі лямпамі. У камплекце – два пульты пераключэння рэжымаў. У працэсе эксплуатацыі перастаў працаваць адзін з рэжымаў. Я хачу вярнуць люстру ў абмен на грошы. Гэта магчыма зрабіць?*

**Алена ЧАЙКА, г.Мазыр.**

– Безумоўна. Пульт уваходзіць у камплект пастаўкі тавару, таму можаце альбо замяніць яго, альбо вярнуць грошы.

## Адмовіцца ад рамонту

*Набыла пральную машыну, але праз 5 месяцаў яна зламалася. Магазін прапаноўвае рамонт, а я хачу вярнуць грошы. Як гэта зрабіць?*

**Марына ГРОМАВА, Мінск.**

– Спажывец мае права напісаць прадаўцу пісьмовую заяву. Укажыце, што адмаўляецеся ад рамонту, і патрабуйце грошы.

## Абмяняць ноўтбук

*Калі ноўтбук быў два разы ў гарантыйным рамонце, ці можна яго абмяняць у тым жа магазіне на ноўтбук іншай мадэлі, але такога ж кошту? Няспраўнасць была адна і тая ж.*

**Вадзім ЛЯШКЕВІЧ, г.Столін.**

– Можаце.

## Відэарэгістратар без гарантыі

*Аддаў у рамонт відэарэгістратар без гарантыі. На працягу якога тэрміну яго павінны адрамантаваць?*

**Андрэй ЛІЦВІНАЎ, г.Іўе.**

– Яго павінны адрамантаваць на працягу 14 дзён.

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 4 ИЮНЯ

### Беларусь 1

06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.25 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 18.15, 00.05 «Зона Х».
08.40 Слово митрополита Павла на начало Петровского поста.
08.50 Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі (з сурдаперакладам).
09.10 «Главный эфир».
10.20, 12.10, 18.35, 19.20 **«Благие намерения».** Сериал.
12.40, 13.05, 14.30, 15.25 **«Женщина в беде-4».** Сериал.
15.15, 18.00 «Новости региона».
17.05 «Белорусское времечко».
21.00 «Панорама».
21.50 «Наши».
22.10 **«След».** Сериал.
23.45 «Арена».
00.45 «День спорта».

### Беларусь 2

07.00 «Телеутро».
09.00, 18.35, 22.05 «Тэлебарометр».
09.30, 20.00 «Понять. Простить».
10.35 «Копейка в копейку».
11.15 «Камень, ножницы, бумага».
11.55 «Свидание для мамы».
12.55 «Мир наизнанку. Непал».
13.55 «Утиные истории». Мультсериал.
15.10 «Мулан». Мультфильм.
16.40 **«Пит и его дракон».** Х/ф.
19.15 «Суперлото».
20.55 «Барышня-крестьянка».
22.00 «КЕНО».
22.10 «Орел и решка. Кругосветка».
23.15 «Иди сюда и танцуй».
23.20 **«Анжелика».** Сериал.
00.30 «Сыграй меня, если сможешь».

### Беларусь 3

07.00 «Дабранак».
07.35, 12.20 «Беларуская кухня».
08.05, 12.00, 19.55 «Навіны культуры».
08.20, 12.15 «Гэты дзень».
08.25 «Нацыянальны хіт-парад».
09.15, 15.50 «Таямніцы савецкага кіно».
09.45 «Навукаманія».
10.15 «Музеі Беларусі».
10.40, 16.15 **«Прыгоды Электроніка».** Сериал.
12.45 «Я хачу гэта ўбачыць!».
13.10 «Наперад у мінулае».
13.40, 22.25 «Хроніка Перамогі».
14.05, 21.05 **«Па законах ваеннага часу».** М/ф.
15.20 «Размаўляем па-беларуску».
17.30 **«Мэры Попінс, да пабачэння».** М/ф.
20.15 «Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака».
20.40 «Калыханка».
22.50 «Святло далёкай зоркі».

### Беларусь 5

06.55 Футбол.
08.35 Художественная гимнастика. Чемпионат Европы.
10.40 «Итоги недели».
11.20 «Большой спорт».
12.00, 22.25 Теннис. «Ролан Гаррос».
14.00 Волейбол. Евролига.
15.45 «Кубок войны и мира». Д/ф.
17.10 Легкая атлетика. Международный турнир. Хенгело.
19.15 «Время футбола».
20.00, 22.15 «Спорт-центр».
20.10 Смешанные единоборства. UFC.

### ОНТ

06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.10, 07.10, 08.10 «Наше утро».
09.10 «Контуры».
10.00 «Жить здорово!».
11.10 «Модный приговор».
12.25, 13.10 **«Золотой теленок».** Сериал.
13.55 «Давай поженимся!».
14.55 «Мужское/Женское».
16.20 «Легенды цирка».
16.55 «Контрольная закупка».
17.30, 18.20 «На самом деле».
18.55 «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
19.00 «Пусть говорят».
20.00 «Время».
21.10 **«Бывшие».** Сериал.
23.15 **«Господа-товарищи».** Сериал.
01.15 «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

07.00 «Утро России».
10.55 «Погода на неделю».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.40 «Комната смеха».
13.35 «Наше дело».
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.35 «О самом главном».
15.45 «60 минут».
17.35 «Судьба человека».
18.45 «Андрей Малахов. Прямой эфир».
20.40 **«Путешествие к центру души».** Сериал.
22.35, 23.10 **«Склифосовский».** Сериал.
00.20 «Вечер».

### НТВ-Беларусь

05.55 «Астропрогноз».
06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
06.10, 07.10 «Деловое утро НТВ».
07.50, 08.05 **«Мухтар. Новый след».** Сериал.
08.50 **«Супруги».** Сериал.
09.40 «За гранью».
10.20 **«Прятки».** Х/ф.
12.05 «Жди меня».
13.25, 18.25 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
14.05 **«ППС».** Сериал.
15.05, 16.35 **«Лесник».** Сериал.
17.25 «ДНК».
19.45 **«Морские дьяволы. Смерч».** Сериал.
22.50 «ЧП.by».
23.10 «Итоги дня».
23.40 **«Свидетели».** Сериал.

### СТВ

06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 23.00 «СТВ-спорт».
09.00 «Неделя».
10.05 «Дальние родственники».
10.40 «Большой завтрак».
11.15 «Следаки».
11.40 **«Под прикрытием».** Сериал.
13.50 **«Осторожно, двери закрываются!».** Х/ф.
15.35 «Пища богов».
16.50 «Большой город».
17.35 «Водить по-русски».
17.55, 00.35 **«Туристы».** Сериал.
20.00 «Столичные подробности».
20.15 **«Белые волки».** Сериал.
22.00 «Смотреть всем!».
23.05 «Самые шокирующие гипотезы».
23.45 «Загадки человечества».

### Мир

06.00, 08.05, 10.05, 13.15 **«Старшая дочь».** Сериал.
08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00 «Новости».
14.00, 03.50 «Дела семейные. Битва за будущее».
15.00 «Дела семейные. Новые истории».
16.15, 00.40 «Игра в кино».
17.10, 18.05 **«Возвращение Мухтара-2».** С.
19.20 **«Джамайка».** Сериал.
23.00, 00.10 **«Пистолет Страдивари».** Х/ф.
01.35 **«Акселератка».** Х/ф.
03.20 «Другой мир».
04.45 **«Оса».** Сериал.

### Россия Культура

06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 15.00, 19.30, 23.40 «Новости культуры».
06.35 «Легенды мирового кино».
07.05 «Пешком…».
07.35 «Архивные тайны».
08.05 **«Антон Иванович сердится».** Х/ф.
09.20 «Герои советского народа. Павел Кадочников».
10.15, 18.30 «Наблюдатель».
11.10 «ХХ век».
12.15, 01.00 «Бедная овечка».
12.55 «Черные дыры. Белые пятна».
13.35, 00.00 «Ольга – последняя Великая княгиня».
14.30 «Библейский сюжет».
15.10 «Легенды балета ХХ века».
16.55 «На этой неделе… 100 лет назад. Нефронтовые заметки».
17.25 «Агора».
19.45 «Главная роль».
20.05 «Правила жизни».
20.30 «Спокойной ночи, малыши!».
20.45 «Ступени цивилизации».
21.35 «Сати. Нескучная классика».
22.20 **«Следователь Тихонов».** Сериал.
23.10 «Сергей Маковецкий. В игре!».
01.40 «Поет Борис Христов».
02.05 «Сокровища «Пруссии».
02.45 «Pro memoria».

### Белсат

07.00, 21.00, 02.55 «Аб'ектыў».
07.15 «Арменія. Рэвалюцыя – гэта не страшна». Рэпартаж.
07.40 «Над Нёмнам».
08.00, 10.55 «Мова нанова»: «Кветкі».
08.20, 14.05 «Гісторыя пад знакам «Пагоні».
08.30, 17.50 «Невядомая Беларусь»: «Фанат». Д/ф.
09.05, 22.00 **«На поўнач».** М/ф.
11.20,18.50, 01.20 «Intermarium»: «Беларусы і яўрэі: што на самай справе адбылося?».
12.05, 23.50 «Сафары». Д/ф.
13.35 Belsat Music LIVE.
14.15 **«Lauder».** М/ф.
16.00 **«Ранча».** Серыял.
16.50 «Апошнія людзі ў Алепа». Д/ф.
18.30 «Мова нанова»: «Слэнг».
19.40 «Загадкі беларускай гісторыі»: «Адсюль наш род! Вёска Юравічы на Гомельшчыне».
20.00, 02.05 «Вось так».
20.15, 02.20 «Студыя «Белсат».
21.25 «Эксперт».
21.45 «Сведкі»: «Каляды. Публічнае калядаванне ў савецкім Мінску».

## ВТОРНИК, 5 ИЮНЯ

### Беларусь 1

06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.30, 00.35 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 18.15, 00.15 «Зона Х».
08.50 Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі (з сурдаперакладам).
09.10, 22.20 **«След».** Сериал.
10.55, 12.10, 18.35, 19.20 **«Благие намерения».** Сериал.
13.10 «Детский доктор».
13.40 «День в большом городе».
14.40, 15.25 **«Ермоловы».** Сериал.
15.15, 18.00 «Новости региона».
17.05 «Белорусское времечко».
21.00 «Панорама».
21.50 «Нефтеград».
23.55 «Сфера интересов».
00.55 «День спорта».

### Беларусь 2

07.00 «Телеутро».
09.00, 19.45 «Тэлебарометр».
09.05, 19.50 «Слепая». Док.сериал.
10.20, 17.40 **«Что делает твоя жена?».** Сериал.
12.25 «Барышня-крестьянка».
13.35 «Битва салонов».
14.35 «Семья 3D».
15.10, 23.00 **«Анжелика».** Сериал.
16.15, 00.00 «Ничего себе ньюз».
16.20, 00.05 «Пин_код».
17.05 «Сыграй меня, если сможешь».
20.50 «Обмен женами».
22.00 «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
22.05 «Орел и решка. Кругосветка».

### Беларусь 3

07.00 «Дабранак».
07.35, 12.20 «Беларуская кухня».
08.05, 12.00, 20.00 «Навіны культуры».
08.20, 12.15, 20.20 «Гэты дзень».
08.25, 18.40 **«Доктар Жывага».** Серыял.
09.15, 18.15 «Таямніцы савецкага кіно».
09.45 «Камертон».
10.10 «Музеі Беларусі».
10.40 Мультфільм.
10.50, 17.05 **«Прыгоды Электроніка».** Серыял.
12.45 «Хата на хату».
13.40 «Залатая калекцыя беларускай песні». «Маладзечна-2012».
14.55 «Я хачу гэта ўбачыць!».
15.25, 21.50 «Хроніка Перамогі».
15.50, 21.05 **«Загадана знішчыць. Аперацыя «Кітайская шкатулка».** Серыял.
16.40 «Размаўляем па-беларуску».
19.30 «Ваша лато», «Пяцёрачка».
20.25 «Белавежская пушча».
20.40 «Калыханка».
22.15 «Люблю і памятаю».
23.00 «Святло далёкай зоркі».

### Беларусь 5

07.15 Легкая атлетика.
09.05 «Пит-стоп».
09.35 «Время спорта».
10.20, 18.30 «Кубок войны и мира». Д/ф.
11.50 «Спорт-микс».
12.00 «Кикнадзе. Мнение».
12.30 Художественная гимнастика. Чемпионат Европы.
14.05 Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Видеожурнал.
15.00, 22.15 Теннис. «Ролан Гаррос». ¼ финала.
17.00 «Легенды мирового спорта».
17.30 «На пути к чемпионату мира-2018». Видеожурнал.
18.00 «Спорт-кадр».
19.50, 22.05 «Спорт-центр».
20.00 Смешанные единоборства. UFC.

### ОНТ

06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.10, 07.10, 08.10 «Наше утро».
09.10 **«Пелагия и белый бульдог».** Сериал.
10.00 «Жить здорово!».
11.10 «Модный приговор».
12.25, 13.10 **«Золотой теленок».** Сериал.
13.55 «Давай поженимся!».
14.55 «Мужское/женское».
16.20 **«Старики-разбойники».** Х/ф.
18.20 «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
19.00 «Пусть говорят».
20.00 «Время».
21.10 **«Бывшие».** Сериал.
23.15 **«Господа-товарищи».** Сериал.
01.15 «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

07.00 «Утро России».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.35, 20.40 **«Путешествие к центру души».** Сериал.
13.35 «Наше дело».
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.35 «О самом главном».
15.45 «60 минут».
17.35 «Судьба человека».
18.45 «Андрей Малахов. Прямой эфир».
22.35, 23.10 **«Склифосовский».** Сериал.
00.20 «Вечер».

### НТВ-Беларусь

05.55 «Астропрогноз».
06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
06.10, 07.10 «Деловое утро НТВ».
07.50, 08.05 **«Мухтар. Новый след».** Сериал.
08.50 **«Супруги».** Сериал.
09.40, 22.50 «ЧП.by».
10.20 **«Алиби на двоих».** Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.25, 18.25 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
14.05 **«ППС».** Сериал.
15.05, 16.35 **«Лесник».** Сериал.
17.25 «ДНК».
19.45 **«Морские дьяволы. Смерч».** Сериал.
23.10 «Итоги дня».
23.40 **«Свидетели».** Сериал.

### СТВ

06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 23.00 «СТВ-спорт».
09.00 **«Папенькин сынок».** Сериал.
10.40, 23.05 «Самые шокирующие гипотезы».
11.20 «Следаки».
11.45 **«Под прикрытием».** Сериал.
13.50, 20.15 **«Белые волки».** Сериал.
15.35 «Пища богов».
16.50 «Центральный регион».
17.35 «Водить по-русски».
17.55, 01.00 **«Туристы».** Сериал.
20.00 «Столичные подробности».
21.55 «Смотреть всем!».
23.50 «Автопанорама».
00.10 «Загадки человечества».

### Мир

06.00, 05.05 **«Оса».** Сериал.
07.15, 08.05, 10.05, 13.15 **«Городские шпионы».** Сериал.
08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00 «Новости».
14.00, 04.05 «Дела семейные. Битва за будущее».
15.00 «Дела семейные. Новые истории».
16.15, 01.10 «Игра в кино».
17.10, 18.05 **«Возвращение Мухтара-2».** Сериал.
19.20 **«Джамайка».** Сериал.
23.00, 00.10 **«Четыре таксиста и собака».** Х/ф.
02.05 **«Пистолет Страдивари».** Х/ф.
03.35 «Другой мир».

### Россия Культура

06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 15.00, 19.30, 23.40 «Новости культуры».
06.35 «Легенды мирового кино».
07.05 «Пешком…».
07.35 «А.С.Пушкин. Тысяча строк о любви».
08.10, 22.20 **«Следователь Тихонов».** Сериал.
09.00 «Сокровища «Пруссии».
09.40, 19.45 «Главная роль».
10.15, 18.30 «Наблюдатель».
11.10, 00.40 «ХХ век».
12.25 «Андреич».
13.00 «Сати. Нескучная классика…».
13.40 «Ключ к разгадке древних сокровищ».
14.30 «Космическая одиссея. XXI век».
15.10 «Легенды балета ХХ века».
16.55 «Пятое измерение».
17.20 «2 Верник 2».
18.05 «Три тайны адвоката Плевако».
20.05 «Правила жизни».
20.30 «Спокойной ночи, малыши!».
20.45 «Ступени цивилизации».
21.35 «Искусственный отбор».
23.10 «Сергей Маковецкий. В игре!».
00.00 «Тем временем».
01.55 Фредерик Кемпф. Концерт в Большом зале Московской консерватории.

### Белсат

07.00, 12.30, 20.00, 00.25 «Вось так».
07.10, 12.45, 20.15, 00.40 «Студыя «Белсат».
07.50, 13.20, 21.00, 01.10 «Аб'ектыў».
08.15, 13.45 «Эксперт».
08.40, 18.10 «Невядомая Беларусь»: «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць». Д/ф.
09.25 **«Час гонару».** Серыял.
10.10 «Невядомая Беларусь»: «Фанат». Д/ф.
10.50, 18.55 «Мова нанова»: «Вёска».
11.10, 16.50 «Украінскія шэрыфы». Д/ф.
14.10 **«На поўнач».** М/ф.
16.00 **«Ранча».** Серыял.
19.15 «Вяскоўцы».
19.40 «Загадкі беларускай гісторыі»: «Мірскі замак. Забава магната».
21.25 **«Глыбокая вада».** Серыял.
22.15 «Рапарт»: «Моладзь у эміграцыі».
22.45 «Ліст да Ганны». Д/ф.
23.40 «Інстынкт». Серыял.

## СРЕДА, 6 ИЮНЯ

### Беларусь 1

06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.25 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 18.15, 00.05 «Зона Х. Криминальные новости».
08.50 Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
09.10, 22.10 **«След».** Сериал.
10.55, 12.10, 18.35, 19.20 **«Благие намерения».** Сериал.
13.10 «Детский доктор».
13.40 «День в большом городе».
14.40, 15.25 **«Ермоловы».** Сериал.
15.15, 18.00 «Новости региона».
17.05 «Белорусское времечко».
21.00 «Панорама».
21.50 «Актуальное интервью».
23.45 «Сфера интересов».
00.45 «День спорта».

### Беларусь 2

07.00 «Телеутро».
09.00, 19.45 «Тэлебарометр».
09.05, 19.50 «Слепая». Док.сериал.
10.10, 17.40 **«Что делает твоя жена?».** Сериал.
12.25 «Барышня-крестьянка».
13.30 «Битва салонов».
14.30 «Семья 3D».
15.10, 23.10 **«Анжелика».** Сериал.
16.15, 00.10 «Ничего себе ньюз».
16.20, 00.15 «Пин_код».
17.05 «Сыграй меня, если сможешь».
20.45 «Обмен женами».
22.00 «Спортлото 5 из 36», «КЕНО».
22.05 «Орел и решка. Кругосветка».

### Беларусь 3

07.00 «Дабранак».
07.35, 12.20, 20.15 «Беларуская кухня».
08.05, 12.00, 19.55 «Навіны культуры».
08.20, 12.15 «Гэты дзень».
08.25, 18.40 **«Доктар Жывага».** Серыял.
09.15, 18.15 «Таямніцы савецкага кіно».
09.40 «Камертон».
10.10 «Музеі Беларусі».
10.40 Мультфільм.
10.50, 17.05 **«Прыгоды Электроніка».** Серыял.
12.45 «Хата на хату».
13.40 «Спадчына песняроў». «Маладзечна-2014».
15.00 «Я хачу гэта ўбачыць!».
15.25, 21.55 «Хроніка Перамогі».
15.50, 21.05 **«Загадана знішчыць. Аперацыя «Кітайская шкатулка».** Серыял.
16.40 «Размаўляем па-беларуску».
19.30 «Запіскі на палях».
20.40 «Калыханка».
22.20 «Люблю і памятаю».

### Беларусь 5

07.05 Легкая атлетика.
09.05 «Игры «на вырост».
09.35, 17.05 «Кубок войны и мира». Д/ф.
10.55 «Легенды мирового спорта».
11.25 «Спорт-кадр».
11.55 «Козел про футбол».
12.15 «Фактор силы».
12.45 **«Бой с тенью».** Х/ф.
15.00, 22.30 Теннис. «Ролан Гаррос».
17.50 Волейбол. Золотая Евролига. Женщины. Беларусь–Чехия.
19.50 Футбол. Товарищеский матч. Беларусь–Венгрия (в перерыве – «Спорт-центр»).
21.50 «Спорт-центр».
22.00 «Слэм-данк».

### ОНТ

06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.10, 07.10, 08.10 «Наше утро».
09.10 **«Пелагия и белый бульдог».** Сериал.
10.00 «Жить здорово!».
11.10 «Модный приговор».
12.25, 13.10 **«Золотой теленок».** Сериал.
13.55 «Давай поженимся!».
14.55 «Мужское/женское».
16.20 «Легенды цирка».
16.55 «Контрольная закупка».
17.30, 18.20 «На самом деле».
18.55 «Удача в придачу!» с «Евроопт».
19.00 «Пусть говорят».
20.00 «Время».
21.10 **«Бывшие».** Сериал.
23.15 «Репортер».
23.35 **«Господа-товарищи».** Сериал.
01.35 «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

07.00 «Утро России».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.35, 20.40 **«Путешествие к центру души».** Сериал.
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.35 «О самом главном».
15.45 «60 минут».
17.35 «Судьба человека».
18.45 «Андрей Малахов. Прямой эфир».
22.35, 23.10 **«Склифосовский».** Сериал.
00.20 «Вечер».

### НТВ-Беларусь

05.55 «Астропрогноз».
06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
06.10, 07.10 «Деловое утро НТВ».
07.50, 08.05 **«Мухтар. Новый след».** Сериал.
08.50 **«Супруги».** Сериал.
09.40, 22.50 «ЧП.by».
10.20 **«Алиби на двоих».** Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.25, 18.25 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
14.05 **«ППС».** Сериал.
15.05, 16.35 **«Лесник».** Сериал.
17.25 «ДНК».
19.45 **«Морские дьяволы. Смерч».** Сериал.
23.10 «Итоги дня».
23.40 **«Свидетели».** Сериал.

### СТВ

06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 23.00 «СТВ-спорт».
09.00 **«Папенькин сынок».** Сериал.
10.40, 23.05 «Самые шокирующие гипотезы».
11.25 «Автопанорама».
11.45 **«Конференция маньяков».** Сериал.
13.50, 20.15 **«Белые волки».** Сериал.
15.35 «Пища богов».
16.50 «Самая полезная программа».
17.35 «Водить по-русски».
17.55, 00.40 **«Туристы».** Сериал.
20.00 «Столичные подробности».
21.55 «Смотреть всем!».
23.55 «Загадки человечества».

### Мир

06.00 **«Оса».** Сериал.
07.15, 08.05, 10.05, 13.15 **«Городские шпионы».** Сериал.
08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00 «Новости».
14.00 «Дела семейные. Битва за будущее».
15.00 «Дела семейные. Новые истории».
16.15, 01.05 «Игра в кино».
17.10, 18.05 **«Возвращение Мухтара-2».** Сериал.
19.20, 04.30 **«Джамайка».** Сериал.
22.05 **«Роза прощальных ветров».** Х/ф.
00.10 «Зеленая папка президента». Д/ф.
02.00 **«Четыре таксиста и собака».** Х/ф.
04.05 «Другой мир».

### Россия Культура

06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 15.00, 19.30, 23.40 «Новости культуры».
06.35 «Легенды мирового кино».
07.05, 16.55 «Пешком…».
07.35 «А.С.Пушкин. Тысяча строк о любви».
08.10, 22.20 **«Следователь Тихонов».** Сериал.
09.00 «Николка Пушкин».
09.40, 19.45 «Главная роль».
10.15, 18.30 «Наблюдатель».
11.10, 01.05 «ХХ век».
12.05 «Эпизоды».
12.50 «Искусственный отбор».
13.30 «Бенедикт Спиноза».
13.40 «Ключ к разгадке древних сокровищ».
14.30 «Космическая одиссея. XXI век».
15.10 «Легенды балета ХХ века».
17.25 «Ближний круг Леонида Хейфеца».
18.15 «Мировые сокровища».
20.05 «Правила жизни».
20.30 «Спокойной ночи, малыши!».
20.45 «Ступени цивилизации».
21.35 «Абсолютный слух».
23.10 «Сергей Маковецкий. В игре!».
00.00 **«Станционный смотритель».** Х/ф.
01.55 Александр Гиндин и Борис Березовский. Фантазия по-американски для двух роялей.

### Белсат

07.00, 12.15, 20.00, 01.35 «Вось так».
07.10, 12.30, 20.30, 01.50 «Студыя «Белсат».
07.50, 13.05, 21.00, 02.20 «Аб'ектыў».
08.15, 13.35 «Рапарт»: «Моладзь у эміграцыі».
08.45, 14.05 «Вяскоўцы».
09.10 «1812. Вайна, якая была іншай». Рэпартаж.
09.30 **«Час гонару».** Серыял.
10.15 **«Каханне ля поплаву».** Серыял.
11.00, 18.55 «Мова нанова»: «Вёска».
11.20, 17.30 «Ліст да Ганны». Д/ф.
14.30 «Невядомая Беларусь»: «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць». Д/ф.
15.15 **«Глыбокая вада».** Серыял.
16.05 **«Ранча».** Серыял.
16.55 «Гісторыя пад знакам «Пагоні».
17.05 «Кулінарныя падарожы Роберта Макловіча».
18.30 «Невядомая Беларусь»: «Усё прыдумана Богам». Д/ф.
19.20 «Эксперт».
19.40 «Загадкі беларускай гісторыі»: «Бітва пад Лоевам у 1649 годзе. Параза ці перамога Беларусі?».
21.25 **«Пажарнікі».** Серыял.
22.15 «Людскія справы»: «Рускі салдат, ідзі дамоў»: Вейшнорыя ды іншыя энергетычна небяспечныя месцы на карце сучаснай Беларусі».
22.45 «Абарваныя жыцці: Джон Белушы». Д/ф.
23.40 **«Статысты».** М/ф.

## ЧЕТВЕРГ, 7 ИЮНЯ

### Беларусь 1

06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.25 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 18.15, 00.05 «Зона Х. Криминальные новости».
08.50 Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
09.10, 22.10 **«След».** Сериал.
10.50, 12.10, 18.35, 19.20 **«Черная кровь».** Сериал.
13.10 «Детский доктор».
13.40 «День в большом городе».
14.40, 15.25 **«Ермоловы».** Сериал.
15.15, 18.00 «Новости региона».
17.05 «Белорусское времечко».
21.00 «Панорама».
21.50 «Дело жизни. Возрождение».
23.45 «Сфера интересов».
00.45 «День спорта».

### Беларусь 2

07.00 «Телеутро».
09.00, 19.40 «Тэлебарометр».
09.05, 19.45 «Слепая». Док.сериал.
10.20, 17.40 **«Что делает твоя жена?».** С-л.
12.25 «Барышня-крестьянка».
13.30 «На ножах».
14.35 «Семья 3D».
15.10, 23.15 **«Анжелика».** Сериал.
16.15, 00.15 «Ничего себе ньюз».
16.20, 00.20 «Пин_код».
17.05 «Сыграй меня, если сможешь».
20.45 «Свадьба вслепую».
22.15 «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
22.20 «Орел и решка. Кругосветка».

### Беларусь 3

07.00 «Дабранак».
07.35, 12.20, 20.15 «Беларуская кухня».
08.05, 12.00, 19.55 «Навіны культуры».
08.20, 12.15 «Гэты дзень».
08.25, 18.40 **«Доктар Жывага».** Серыял.
09.15, 18.15 «Таямніцы савецкага кіно».
09.40 «Камертон».
10.10 "Музеі Беларусі".
10.35 Мультфільм.
10.55, 17.05 **«Прыгоды Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя».** М/ф.
12.45 «Хата на хату».
13.40 «Белая Русь ты мая». "Маладзечна-2016". Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі.
15.00 "Я хачу гэта ўбачыць!".
15.25, 21.55 «Хронікі Перамогі».
15.50, 21.05 **«Загадана знішчыць. Аперацыя "Кітайская шкатулка".** Серыял.
16.40 "Размаўляем па-беларуску".
19.30 «Запіскі на палях».
20.40 «Калыханка».
22.20 «Люблю і памятаю».

### Беларусь 5

06.50 Художественная гимнастика. Чемпионат Европы.
08.20, 15.10 Футбол.
10.10 Волейбол. Золотая Евролига.
11.55, 16.55 «Кубок войны и мира». Д/ф.
12.35 «Легенды мирового спорта».
13.05 «Слэм-данк».
13.35 «Марадона». Д/ф.
18.00 Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. ½ финала.
20.05 Тренировочный день.
20.40, 22.55 «Спорт-центр».
20.55 Легкая атлетика. Бриллиантовая лига. Осло.
23.05 Смешанные единоборства. UFC.

### ОНТ

06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.10, 07.10, 08.10 «Наше утро».
09.10 **«Пелагия и белый бульдог».** Сериал.
10.00 «Жить здорово!».
11.10 «Модный приговор».
12.25, 13.10 **«Золотой теленок».** Сериал.
13.55 «Давай поженимся!».
14.55 «Мужское/Женское».
16.20 «Легенды цирка».
16.55 «Контрольная закупка».
17.30, 18.20 «На самом деле».
18.55 «Удача в придачу!» с «Евроопт».
19.00 «Пусть говорят».
20.00 «Время».
21.10 **«Бывшие».** Сериал.
23.15 **«Господа-товарищи».** Сериал.
01.15 «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

07.00 «Утро России».
08.40, 20.55 **«Путешествие к центру души».** Сериал.
11.00, 17.00, 20.00 «Вести».
12.00 «Прямая линия» с Владимиром Путиным.
15.00, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
15.10 «Пряничный домик».
15.40 «О самом главном».
17.35 «60 минут».
18.45 «Андрей Малахов. Прямой эфир».
23.10 «Вечер».

### НТВ-Беларусь

05.55 «Астропрогноз».
06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
06.10, 07.10 «Деловое утро НТВ».
07.50, 08.05 **«Мухтар. Новый след».** Сериал.
08.50 **«Супруги».** Сериал.
09.40, 22.50 «ЧП.by».
10.20 **«Алиби на двоих».** Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.25, 18.25 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
14.05 **«ППС».** Сериал.
15.05, 16.35 **«Лесник».** Сериал.
17.25 «ДНК».
19.45 **«Морские дьяволы. Смерч».** Сериал.
23.10 «Итоги дня».
23.40 **«Свидетели».** Сериал.

### СТВ

06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 23.00 «СТВ-спорт».
09.00 **«Папенькин сынок».** Сериал.
10.40, 23.05 «Самые шокирующие гипотезы».
11.25 «Следаки».
11.55 **«Конференция маньяков».** Сериал.
13.50 **«Белые волки».** Сериал.
15.35 «Пища богов».
16.50 «Минск и минчане».
17.35 «Водить по-русски».
17.55, 00.55 **«Туристы».** Сериал.
20.00 «Столичные подробности».
20.15 Специальный репортаж СТВ.
20.35 **«Белые волки-2».** Сериал.
22.20 «Смотреть всем!».
23.45 «Автопанорама».
00.05 «Загадки человечества».

### Мир

06.00, 08.05, 10.05, 19.20 **«Джамайка».** Сериал.
08.00, 10.00, 11.50, 19.00, 00.00 «Новости».
16.15 «Зеленая папка президента». Д/ф.
17.10, 01.10 «Игра в кино».
18.05 **«Возвращение Мухтара-2».** Сериал.
22.05 **«Так не бывает».** Х/ф.
02.05 **«Роза прощальных ветров».** Х/ф.
03.50 «Другой мир».
04.20 **«Оса».** Сериал.

### Россия Культура

06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 15.00, 19.30, 23.40 «Новости культуры».
06.35 «Легенды мирового кино».
07.05 «Пешком…».
07.35 «А.С.Пушкин. Тысяча строк о любви».
08.10, 22.20 **«Следователь Тихонов».** Сериал.
09.00 «Голландцы в России. Окно из Европы».
09.40, 19.45 «Главная роль».
10.15, 18.30 «Наблюдатель».
11.10, 00.00 «ХХ век».
12.10 «Вологодские мотивы».
12.20 «Полярный гамбит. Драма в тени легенды».
13.00 «Абсолютный слух».
13.40 «Ключ к разгадке древних сокровищ».
14.30 «Космическая одиссея. XXI век».
15.10 «Легенды балета ХХ века».
16.55 «Пряничный домик».
17.25 «Линия жизни».
20.05 «Правила жизни».
20.30 «Спокойной ночи, малыши!».
20.45 «Ступени цивилизации».
21.35 «Энигма. Сэр Клайв Гиллинсон».
23.10 «Сергей Маковецкий. В игре!».
01.00 «Черные дыры. Белые пятна».
01.40 «Два рояля». Дмитрий Алексеев и Николай Демиденко.
02.25 «Три тайны адвоката Плевако».

### Белсат

07.00, 12.15, 20.00, 01.05 "Вось так".
07.10, 12.30, 20.15, 01.10 «Студыя «Белсат».
07.50, 13.05, 21.00, 01.55 «Аб'ектыў».
08.15, 13.30 "Людскія справы": "Рускі салдат, ідзі дамоў": Вейшнорыя ды іншыя энергетычна небяспечныя месцы на карце сучаснай Беларусі".
08.45 "Эксперт".
09.10 "Экспедыцыя "Nalanga". Рэпартаж.
09.30 **"Час гонару".** Серыял.
10.15 **"Пажарнікі".** Серыял.
11.00, 18.50 "Мова нанова": "Рыцары".
11.20, 17.15 "Абарваныя жыцці: Джон Бtлушы". Д/ф.
14.05 **"Статысты".** М/ф.
16.00 **"Ранча".** Серыял.
16.50 "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
18.10 "Невядомая Беларусь": "І выберу Радзіму". Д/ф.
19.10 "Прыват": "Здаровы лад жыцця: без фанатызму і ныцця".
19.40 "Загадкі беларускай гісторыі": "Міндоўг. Герой-разбойнік".
21.25 **"Бода".** Серыял.
22.20 "Кожны з нас": "Наркотыкі: злачынства і пакаранне".
23.15 "Убеждения". Д/ф.
00.15 **"Пітбуль".** Серыял.

